Фестываль у Гайнаўцы →3




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Тайная вячэра → 9




http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 26 (2928) Год LVII | Беласток, 24 чэрвеня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Мы (не) ўсюды

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

**З недаверам і трывогай успрынялі самаўрадаўцы Гайнаўскага павета інфармацыю аб тым, што пасля канчатковага ўключэння лічбавага тэлебачання і выключэння атрымліванага аналагавага тэлебачання тэлевізійны сігнал увогуле перастане даходзіць у паўднёва-ўсходнюю частку гэтага павета. На гэтай тэрыторыі ў большасці пражывае беларуская меншасць, таму яна можа быць увогуле пазбаўлена доступу да публічнага тэлебачання і сваёй штотыднёвай перадачы „Самі пра сябе". Апошні рэкламны лозунг Беластоцкага тэлецэнтра „Jesteśmy wszędzie" можа не мець адлюстравання ў рэальнасці.**






У канцы мая ў час прэс-канферэнцыі дырэктарка Беластоцкага тэлецэнтра **Агнешка Рамашэўская-Гузы** (у мінулым тыдні нечакана яе знялі з гэтай пасады) ганарылася:

— Маю радасную вестку. Тэлебачанне Беласток ад 1 чэрвеня будзе вяшчацца ва ўсім Падляшскім ваяводстве.

Спадарыня дырэктарка такім чынам спаслалася на факт, што праграмы Беластоцкага тэлецэнтра будуць даходзіць дзякуючы Наземнаму лічбаваму тэлебачанню праз радыёперадавальнік у Лосіцах у паўднёвы раён ваяводства, значыць, у ваколіцы Сямятыч, Мельніка і Драгічына, замест ад TVP Лодзь.

— Гледачы на гэтай тэрыторыі будуць мець выбар паміж агляданнем праграм нашага асяродка, замест праграм Мазавецкага тэлецэнтра, — дадала.

Успамінаючы аб замене аналагавага тэлебачання (якое прымаем пры дапамозе антэны і тэлевізара) лічбавым тэлебачаннем (пры дапамозе дэкодара), што ва ўсёй краіне мае наступіць да 31 ліпеня будучага года, заявіла:

— У нашай краіне застанецца крыху белых плям (лічбавае тэлебачанне туды не дойдзе — М. Х.), у тым ліку ў раёне Гайнаўкі. Неабходна даставіць дадатковую мачту.

Тут яна заявіла, што справай TVP не з'яўляецца стаўлянне мачтаў. Як казала, адказвае за гэта фірма „Emitel", апаратар наземнага сеціва радыёвяшчання і тэлебачання:

— Тут патрэбнае лабіраванне.

— Хто меў бы лабіраваць узвядзенне мачты, дзякуючы якой лічбавае тэлебачанне дойдзе да часткі Гайнаўскага павета? — распытвалі мы.

— Самаўрадаўцы, падляшскія дэпутаты, — пералічыла дырэктарка.

Самаўрадаўцы з гмін Гайнаўскага павета, з якімі мы размаўлялі, а на абшар якіх без дадатковай мачты не дойдзе лічбавае тэлебачанне, гэтай інфармацыяй ашарашаны. Бурмістр Кляшчэляў **Ірэна Негярэвіч:**

— Дзякую вам за гэтую інфармацыю. Я абурана. Ніхто з намі ў гэтай справе не кантактаваўся. Пані Рамашэўская павінна нас аб гэтым паінфармаваць. Маем сустрэчца з войтамі і параіцца, што рабіць. Гэтак не можа быць. Напэўна такой мачты не можа прафінансаваць гміна, гэта не з'яўляецца яе ўласным заданнем.

Праз хвіліну одуму пані бурмістр не выключыла:

— Можа гэта свядомае дзеянне.

Войт Дубіч-Царкоўных **Лявон Малашэўскі:**

— Ну дык мы ўжо будзем Польшчай „Ц" — горшай катэгорыі! Гэта для мяне жахлівае. Застанецца нам глядзець тэлебачанне з Беларусі. Спачатку міністр асяроддзя не хацеў з нашай гмінай размаўляць пра Белавежскую пушчу, а цяпер — справа тэлебачання. Гэта на маю думку другі відавочны прыклад дыскрымінацыі ў адносінах да нас, ну, можа некампетэнтнасці.

Бурмістру Гайнаўкі **Ежы Сіраку**, хаця праўдападобна праблема з лічбавым тэлебачаннем сталіцы павета не кранула б, гэтая вестка была таксама нечаканасцю:

— Першы раз пра гэта чую. Нічога такое не павінна адбыцца. Мусім гэта абмеркаваць у саюзе гмін Гайнаўскага павета. Я веру, што гэтая праблема будзе вырашана, думаю, што камусьці спецыяльна не залежыць на гэтым, каб так было.

Гайнаўскі староста **Уладзімір Пятрочук:**

— Я аб чымсьці такім не чуў. Не ведаю, што сказаць на гэта. Афіцыйна не маем ніякіх інфармацый, ды калі так яно ёсць, трэба будзе з войтамі пачаць нейкія дзеянні.

Звярнуліся мы з мэтай высвятлення справы да паказанай дырэктар Рамашэўскай-Гузы фірмы „Emitel". Яе прэс-сакратар **Вальдэмар Сромэк** тлумачыў:

— Аказваем паслугі для TVP пры ўвядзенні лічбавага тэлебачання. Падпісалі мы дамову на ахапленне ім 95% тэрыторыі краіны. Там, дзе на карце відаць белыя плямы, патрэбны мачты для ўзмацнення тэлевізійнага сігнала. Мы адкрытыя. Калі TVP звернецца да нас, даем гарантыю, што лічбавае тэлебачане дойдзе і да гэтай часткі Гайнаўскага павета. Пакуль пра такую патрэбу TVP не заяўляла. Чаму яно падпісала з намі дамову на ахапленне лічбоўкай 95% тэрыторыі краіны, мне невядома.

Нечаканасцю гэта з'яўляецца і для падляшскага дэпутата ГП **Роберта Тышкевіча,** м.інш. члена сеймавай камісіі культуры і СМІ:

— Я вёў перапіску з прадстаўнікамі TVP і Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання. Давалі мне гарантыі, што інфраструктура будзе падрыхтавана так, каб усе нацыянальныя меншасці мелі доступ да тэлепраграм. Да сёння былі гэта гарантыі на палітычным узроўні, але не тэхнічным. Дзякую вам за гэты сігнал. Трэба прыпільнаваць гэтую справу. Асабліва таму, што доступ да публічнага тэлебачання нацыянальных меншасцей гэта яго місія і мусіць гарантавацца таксама пры ўвядзенні лічбавага тэлебачання.

Папрасілі мы таксама даць свой каментарый прафесара **Стэфана Пастуш-ку,** сябра КРРіТ, які займаецца ў радзе м.інш. меншаснымі пытаннямі. Спачатку распытваў ён у нас, ці наша інфармацыя сапраўдная. Пасля пацвярджэння сказаў:

— Трэба заняцца гэтым адміністрацыйнай дарогай, падаць ліст у TVP з просьбай высветліць справу. Пакуль што сур'ёзна я не ў змозе на гэта адказаць.

Старшыня Беларускага саюза ў РП **Яўген Вапа** ў сваю чаргу так каментуе справу:

— Мне здаецца, што пры так агучанай тэлебачаннем лічбавізацыі для часткі беларускай Беласточчыны, асабліва Гайнаўскага павета, гэта так быццам разам з вадою выплюхнуць і дзіця. Усе да нядаўна слушна пратэставалі ў справе таго, што літоўцы ў Сейненскім павеце не могуць глядзець сваёй праграмы, вяшчанай беластоцкім TVP (гаворка пра „Літоўскую панараму" — М. Х.). Цяпер у такой сітуацыі апынуліся і мы ў Гайнаўскім павеце. Спадзяюся, што сітуацыя будзе папраўлена. Павінны тут запратэставаць самі самаўрадаўцы з гмін Гайнаўскага павета і гайнаўскі староста. Баюся, што ў сувязі з благой фінансавай сітуацыяй публічнага тэлебачання гэтую справу адтэрмінуюць, як кажуць па-польску, „na święte nigdy". Думаю, што пратэсты самаўрадаўцаў і жыхароў ды рэакцыя ўлад лакальнага тэлецэнтра спрычыняцца да таго, што не прападзем як беларусы з гэтай публічнай прасторы. На пасяджэнні супольнай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей у чацвер, 14 чэрвеня, у Варшаве я зрабіў заяву ў гэтай справе. Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі абавязалася неадкладна звярнуцца ва ўправу Польскага тэлебачання з патрабаваннем высветліць гэтую справу.



# „А вы паспрабуйце так!”



Чарговы раз успомніў я аповед, калі паляк спрачаўся з беларусам і казаў: „Міцкевіч — наш!”. А беларус не пагаджайся і гаварыў: „Не, ён наш! Нарадзіўся ж тут”. А пасля яны загаварылі пра Дзяржынскага, і ўсё стала наадварот. Паляк крычаў, што Фелікс Эдмундавіч з беларускай зямлі, таму мусіць называцца беларусам. А беларус не пагаджайся, казаў каб забіралі яго сабе і настойваў, што жалезны Фелікс усё ж такі паляк.

Мараль тут зразумелая кожнаму. Добрага чалавека ўсякі народ хоча запісаць сабе ў героі. Ну, а халодны забойца нікому непатрэбны, бо кожны народ хоча ганарыцца сваімі дзеячамі, а не чырванець за іх. Кожны народ хоча паказаць сваіх герояў справядлівымі, мужнымі і добрымі людзьмі, з якіх трэба браць прыклад будучым пакаленням.

Успомніўся чарговы раз гэты аповед калі прыйшла сумная звестка пра трагічную смерць ад цяжкой хваробы Барыса Ігаравіча Звоскава, вядомага беларускага праваабаронца і надзвычай сумленнага і высокамаральнага чалавека. І ўспомнілася адно яго мудрае пераканание, якім зараз хочацца падзяліцца.

Ён пражыў усяго 63 гады. Але ён шмат паспеў зрабіць за гэты час для іншых людзей і для ідэі, у якую верыў. Барыс Звоскаў быў адным з заснавальнікаў аб'яднання „Прававая ініцыятыва”, першым прэзідэнтам Беларускага дома правоў чалавека, „Праваабаронцам года Беларусі-2008”. Барыс Ігаравіч зрабіў вялікі ўнёсак у асвету і адукацыю па правах чалавека, быў абаронцам у палітычна-матываваных працэсах, шмат працаваў з моладдзю, журналістамі, грамадскімі актывістамі, людзьмі пацярпелымі ад несправядлівасці і з усімі, хто гэтага патрабаваў. Ён быў надзвычай граматным спецыялістам па пытаннях абароны ў адміністрацыйных і крымінальных працэсах, кансультаваў адвакатаў, юрыстаў і іншых праваабаронцаў. Браўся толькі за тое, у чым разбіраўся дасканала.

— Я не ўмею збіраць мітынгі, — казаў ён, — таму пакідаю гэта тым, хто ўмее. А я буду рабіць толькі тое, што ўмею.

Многа добрага можна сказаць пра гэтага Чалавека з вялікай літары, дысідэнта, змагара за праўду і справядлівасць. Такі гэта быў чалавек. Цалкам адданы сваёй справе, вельмі праўдзівы, шчыры і добрасумленны. Барыс Ігаравіч заслужыў сваёй прафесійнай і адданай працай вялікі аўтарытэт. Але асабліва хочацца спыніцца не толькі на тым, колькі ён зрабіў у імя справядлівасці, але як сумленна ён гэта рабіў.

Памятаю, як на адным семінары, дзе Барыс Ігаравіч навучаў, як трэба сябе паводзіць падчас несправядлівага затрымання сілавікамі і як законна адстойваць тады свае правы, хтосьці з прысутных падзяліўся сваімі, на яго думку больш эфектыўнымі метадамі супраць нахабных налётчыкаў. І параіў на несправядлівасць адказаць хітрасцю. Зрабіць правакацыю ці што схітрыць такое, каб тым затрымантам, што дзеюць незаконна, нарабіць пабольш клопатаў і такім чынам адпомсціць. І тут спадар Звоскаў памяняў тэму і проста загаварыў пра чалавека, пра такія рысы як сумленнасць, праўдзівасць, пра тое, што несумленны апазіцыянер анічым не адрозніваецца ад несумленнага міліцыянта.

Дыскусія на гэтую тэму разгарэлася. І хутка ў апанента Звоскава не засталося аргументаў. Застаўся адзін толькі доказ, які часта ўжываюць у спрэчках многія. Маўляў, у белых пальчатках справу не зробіш, каб іх не запэцкаць.

Не трэба было нічога далей гаварыць, толькі паглядзець у вочы Барыса Ігаравіча, на яго твар і ўсмешку. У той усмешцы было закадавана наступнае: „А вы спрабавалі хоць раз так зрабіць, што сцвярджаеце, што гэта немажліва? А вы паспрабуйце так. Гарантую, што вам спадабаецца. І вы больш ніколі не захочаце рабіць па-іншаму”. І гэта зразумелі ўсе прысутныя. Зразумелі і паверылі.

Барыс Звоскаў так жыў сам, і так навучаў іншых. Кожны народ будзе лічыць гонарам казаць: „Ён наш!” І яго словы „А вы паспрабуйце так” высеча залатымі літарамі ў сваёй гісторыі, як прыклад сумленнасці і высокай чалавечай маралі, якая мусіць існаваць незалежна ад таго, у якіх умовах прыходзіцца жыць і дзейнічаць.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Забіванне каровы

Дэмакратыя мае натуру лагоднай каровы — даецца кожнаму даіцца, нават тым, хто патрабуе ад яе, каб цыркала з доек... птушыным малачком. А так доўга не ўдасца. Карову трэба карміць, трэба аб яе дбаць і абараняць яе ад рою выраджаных калольшчыкаў, кляшчападобных носьбітаў ідэалагічнай хваробы Лайма і клапападобных чынуш. Іншая гэта справа, што ад дэмакратыі можна стаміцца. Апошнія свавольствы „кіболяў” — футбольных заўзятараў-жулікаў у Варшаве не ў адным выклікалі балючы ўздых: „Дубінкай гаўнюкоў, дубінкай! Нашто з імі цацкацца, тлумачыць, прасіць! Яны ж нічога не зразумеюць, а калі і нават, дык наадварот”. „Ды што вы, — працівяцца іншыя, — мы не для таго змагаліся за дэмакратыю, каб цяпер яе бы качыны круп аскубваць з асноўных дэмакратычных свабод. Футбольны заўзятар-бандзюга ці не, ды кожны мае права на свабоднае выказванне, на светапоглядную экспрэсію. Вядома, у рамках правасуддзя”. „Гэта праўда! Права найважнейшае!” — пацiраюць рукі там дамарослыя салоны, драконы, пісаўцы і гістарычныя змоўшчыкі. „Цяперашняе права занадта ліберальнае, занадта мяккае для жулля. Трэба радыкалізаваць юрыдычныя правілы, якія прадухіляць вулічнае хуліганства: дзікія пратэсты, дэманстрацыі, страйкі”. І так вось забіваецца карова. Значыць, дэмакратыя. Amnesty International ужо асцерагае грамадскую думку перад законапраектам абвастраючым правілы аб дэманстрацыях. І мае абсалютную рацыю. Таму што за дэмакратыю трэба безупынна біцца, коштам нават крыві з разбітага носа, нават коштам сораму, які прыносіць большасці грамадзян кібольская чэрнь. Ды ці яна нараджаецца на камені? Ці мае яна штосьці супольнае з іншапланецянамі? Не! Гэта нашы людзі. Гэта нашы сыны, браты, пляменнікі, суседзі, сваякі. Не ўзяліся яны зніадкуль. Гэта мы іх выгадавалі. Мы, вельмі спакойныя грамадзяне, запрацаваныя, убітыя, штораз больш сляпыя і глухія на бяду іншых, на іхнюю адрынутасць, выключэнне, грамадскую разгубленасць і маргіналізацыю. Гэта сярод іх нараджаюцца заўзятары-бандзюгі. Ці яны пагроза для дэмакратыі? Так. Чым большыя завуголлі беспрацоўных, пазбаўленых жыццёвых перспектыў, тым большы ўзровень грамадскай агрэсіўнасці, і тым пад большай пагрозай правасуддзе. А чым больш пагроз для яе, тым больш грамадскі дазвол на абмежаванне дэмакратыі. Толькі што дэмакратыі, прывязанай на ланцуг, цяжка ад яго вызваліцца. Хутчэй ужо дачакаецца намордніка, калі занадта ўпарта пачне дамагацца страчаных свабод. І тады ўжо няма чаго плакаць. Беларусы маглі б больш пра гэта сказаць, але ўжо не могуць. У Беларусі практычна не існуюць незалежныя СМІ. Апазіцыйныя кіраўнікі сядзяць у лагерах. Гнеў маладых, збунтаваных супраць рэжыму людзей таксама лёгка астудзіць дубінкамі. А калі не дубінкамі, дык абсурднымі адміністрацыйнымі правіламі. Як інфармуе надзейны Міхал Янчук з тэлебачання Белсат, беларускія арганізатары апазіцыйный дэманстрацыі не толькі мусяць перад зе правядзеннем атрымаць згоду гарадскіх улад, але і ўплаціць узнос адносна „асблугоўвання масавай акцыі”. Карэспандэнт Белсата прыводзіць выказванне дэмакратычнага актывіста Леаніда Аўтухова з Гарадка, які заявіў, што „ўлады робяць усё, каб звычайны грамадзянін, не распараджаючыся сродкамі большымі чым уласная зарплата, не быў у змозе сарганізаваць нават простага пікета, не гаварыўшы ўжо пра дэманстрацыю пратэсту”. Сваю заяву Аўтухоў падмацаваў салідным пералікам. І трэба сцвердзіць, што ён кур'ёзны. Вось кошты такой дэманстрацыі ў залежнасці ад часу яе працягу і ліку асоб, прымаючых у ёй удзел скачуць як блыха на патэльні — тым вышэй, чым яна гарачэйшая. За пратэст у адну гадзіну з удзелам не больш чым 50-ці ўдзельнікаў трэба было б заплаціць адпаведным службам за прыбіранне і суправаджэнне медычнага амбуланса 827 688 і больш рублёў. А што, калі б захацела ўдзельнічаць 10 тысяч непакорлівых? Не забывайма яшчэ аб адной аплаце — для міліцыі. А гэтая зусім нявызначаная, паколькі залежыць... ад ліку функцыянераў прымаючых удел у ахове ўдзельнікаў марша ці пікета. Скажам гэта найпрост, што перашкодзіць уладам вызначыць для гэтага бяздзейных генералаў, палкоўнікаў, маёраў? Ужо не ўспамінаю пра Лукашэнку, якому дасталіся герeральскія пагоны. Толькі хто быў бы ў змозе даць яму ахову? Ну вось! І ў тым справа.

**Міраслаў ГРЫКА**

## Вачыма еўрапейца

# Падрыхтоўка з невядомай



Пачалася гонка Падляшскага ваяводства, мэтай якой з'яўляецца прыцягненне як найбольшых еўрасаюзных сродкаў на 2014-2020 гады. Як сказаў нядаўна камісар ЕС па справах бюджэту Януш Левандоўскі, у Польшчу можа трапіць у гэтым новым размеркаванні больш за 80 мільярдаў еўра. Прытым адзначаў:

— Узровень гэтай сумы вызначаецца ў негацыяцыях. Прапанаваная перспектыва карысная для краін Усходняй Еўропы ў галіне сельскай гаспадаркі і рэгіянальнай палітыкі (больш маюць атрымліваць самаўрады — М. Х.). Успомненыя камісарам негацыяцыі маюць завяршыцца да канца бягучага года. У сваю чаргу, на думку міністр рэгіянальнага развіцця Альжбеты Бяньпоўскай, Польшча мае атрымаць на будучыя сем гадоў 68-80 мільярдаў еўра. Адзначыла яна, аднак: „Гэта грошы напэўна большыя, чым у цяперашнім бюджэце. Прыгадаю, што ў цяпершнім бюджэце ёсць 68 мільярдаў еўра. Няма як сказаць у гэты момант, колькі гэта будзе, паколькі негацыяцыі яшчэ працягваюцца”.

Адно, аднак, пэўнае: еўрасаюзны бюджэт 2014-2020 будзе апошнім такім вялікім для Польшчы хаця б таму, што ў гэты перыяд — як мяркуюць эксперты — шэсць-сем ваяводстваў перавысіць статыстычныя паказчыкі, якія даюць права на хадайніцтва за найбольшыя сродкі. Гэта незалежна ад таго, што новы бюджэт мае быць больш ад папярэдняга на каля пяць працэнтаў. Генеральна ва ўсім бюджэце Еўрасаюза больш грошай мае быць размеркаваных на даследаванні і наватарства ды суседскую і імігpацыйную палітыку.

Падляшскае ваяводства цяпер на этапе падрыхтоўкі праграм, якія маглі б фінансавацца з еўрасаюзных сродкаў. У час прэс-канферэнцыі Данель Гурскі, дырэктар дэпартамента кіравання Рэгіянальнай аператыўнай праграмай Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства адзначыў: „Ніхто не можа сказаць нічога дэталёвага, што будзе фінансавацца. Нават міністр Бяньпоўская прымяніла фармулёўку, што, напрыклад, праграма Развіццё Усходняй Польшчы магчыма што будзе. Напэўна будуць грошы на развіццё інфармацыйнага грамадства. Не зможам фінансаваць гмінных дарог. Кожны рэгіён мусіць знайсці свой шлях развіцця”.

Спытаўся я ў дырэктара Гурскага ці, напрыклад, Падляшша схоча ўдзельнічаць у нейкай праграме суседства, на якую маюць быць большыя грошы. Пачуў дыпламатычны адказ: „Будзе больш грошай, каб інтэгравацца з нашымі ўсходнімі суседзямі. Гэта наш козыр. Ніхто ў Еўропе лепш чым мы не ведае як супрацоўнічаць з Беларуссю ці з Прыбалтыкай, якая з'яўляецца адкрытым шляхам на Скандынавію”.

Таксама ў час спецыяльна скліканай прэс-канферэнцыі падляшскі дэпутат ад ГП Роберт Тышкевіч распавядаў аб прапановах, якія павінны быць улічаны ў новай еўрасаюзнай бюджэтнай перспектыве (у рамках праграмы Развіццё Усходняй Польшчы) накont Падляшскага ваяводства. Пералічыў: устойлівае развіццё нацыянальных паркаў і іх наваколля, санаторны „наступ” ды стварэнне культурных і гістарычных паркаў, прымаючы пад увагу прысутнасць у рэгіёне нацыянальных меншасцей.

Распытваны мною аб прапановах, заяўленых дэпутатам Тышкевічам, дырэктар Гурскі адказаў: „Гэта каштоўная ініцыятыва”. Пасля дадаў: „Патрэбны інтэлігентны пагляд на турызм. Не можам сапернічаць, напрыклад, з Грэцыяй, а нават да Вармії і Мазураў нам далёка. Прапанова з санаторыямі вельмі прыдатная, калі гаворка пра развіццё Падляшскага ваяводства. Пакуль, аднак, гэта толькі прапановы”.

Пакуль што Міністэрства рэгіянальнага развіцця перадало апошнім ведамствам і ваяводскім самаўрадам дакумент „Праграмаванне фінансавай перспектывы 2014-2020 — стратэгічныя ўмовы”. Цяпер ад, так сказаць, бюракратычнай спраўнасці ды вынаходлівасці асабліва падляшскіх самаўрадаў і палітыкаў залежыць, якія і ці ўвогуле прапановы з Падляшша апынуцца ў будучым фінансавым кантракце Польшчы з Еўрасаюзам.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Этнаграфічны фестываль у Беларускім музеі

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

— Міхась Андрасюк (гайнаўскі беларускі пісьменнік — А. М.) аднойчы запрапанаваў, што добра было б, каб музей выйшаў са сваімі прапановамі па-за музейны будынак. Мы з Тамашам Ціханюком рашыліся ладзіць этнаграфічныя фэсты „Культура на сходах музея”, — заяўляе журналістка Радыё „Рацыя” Наталля Герасімюк, якая раней працавала бібліятэкарам у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. — Першае мерапрыемства прысвечанае было ільняной кашулі. Мы паказалі цэлы працэс яе выканання, пачынаючы з апрацоўкі лёну. Пазней былі этнаграфічныя фэсты „Сонца ў саломцы”, „Не святыя гаршкі лепяць”, „Свята беларускага хлеба”, „Сто твараў лазы” і „Бульбафэст”.


У час фестывалю можна было павучыцца пляценню вырабаў з саломы і лазы

— У першым годзе мы наладзілі шэсць этнаграфічных фэстаў, а цыкл прэзентавання народных рамёстваў закончылі ў наступным годзе, — кажа тадышні культработнік, а цяперашні дырэктар Беларускага музея ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк.

Шэсць гадоў перад музейным будынкам, а пры неспрыяльным надвор’і ў музейных памяшканнях, ладзіліся этнаграфічныя фэсты, прымеркаваныя да паасобных рамёстваў. Выступленні калектываў найчасцей адбываліся на музейных сходах. У мінулым годзе асобныя фэсты былі аб’яднаны ў адно вялікае мерапрыемства — Беларускі этнаграфічны фестываль.

10 чэрвеня гэтага года Беларускі этнаграфічны фестываль „Культура на сходах музея” прыцягнуў многа людзей. Аднак для шырэйшай публікі больш зручна адзін раз у год прыйсці на музейны панадворак і пабачыць працу розных рамеснікаў, — гаварыла Наталля Герасімюк.

Найбольш дзетак сабралася каля ганчара, які дазваляў выконваць на ганчарным крузе вырабы з гліны, дапамагаючы, калі было трэба. Чарга дарослых выстраілася за бульбянымі дранікамі, якія смажылі жанчыны. Адстаяўшы сваё, елі яны дранікі і заахвочвалі іншых паспрабаваць бульбяное смакоцце. Да іншых рамеснікаў таксама падыходзілі маладыя людзі і цікавіліся іх працай, а старэйшыя ўспаміналі цяжкую ручную працу ў мінулым. Яўгенія Кандрацюк вучыла маладую дзяўчыну саломапляценню і гэтая работа нядрэнна ёй атрымлівалася.



Дзеткам, моладзі і дарослай публіцы было падрыхтаваных многа атракцыёнаў. Перш за ўсё прэзентаваліся рамёствы характэрныя для Беласточчыны. Маладыя людзі маглі павучыцца колішнім вясковым заняткам. Аб’яднанне „Музей і асяродак беларускай культуры” вырашыла, што на восьмым годзе прыйшоў час назваць мерапрыемства фестывалем.

— Мы рашыліся спалучыць фэсты ў адно мерапрыемства і назваць яго фестывалем, каб павысіць яго значэнне і прыцягнуць больш маладых людзей на музейны панадворак, якім прапануем, між іншым, паслухаць музыку. Побач канцэртаў калектываў прэзентуем сёння традыцыйныя рамёствы, прапануем дэгустацыю бульбяных страў, — сказаў дырэктар Тамаш Ціханюк.

Колькасць сабранай публікі сведчыла, што сёлетні фестываль карыстаецца большым зацікаўленнем, чым гэта было ў мінулых гадах.

— Спачатку прэзентацыі паасобных рамёстваў адводзілася многа ўвагі. І спецыялістам па рамеснай справе, і музейнікам такая формула была больш цікавай.

— У нас, у Грабаўцы, цэлая вёска пляла каробкі і іншыя вырабы з саломы. Прадаючы іх, нядрэнна можна было зарабіць. Я з дзесяцігадовага ўзросту пачала выконваць вырабы з саломы і гэта займала мне вельмі многа часу, — сказала Яўгенія Кандрацюк.

Анна Антасюк з Янава пляла кошыкі з лазы. Яна разам з мужам надалей займаецца гэтым заняткам. Людзі купляюць кошыкі для збірання бульбы ці яблык у садах. Мікола Шыманюк, родам з Семяноўкі, выканаў з дрэва пасудзіну (вырабляе іх дома і стараецца прадаваць гандлёвым суполкам). Марыя Пракапюк, родам з Новага Корніна, паказвала як ткаць на кроснах.

— Да мяне сёння то ўжо мала хто і падыходзіць. Хіба, што малыя дзеткі са старэйшымі асобамі, якія хочуць паказаць сваім нашчадкам як калісь ткалі. Калісь то я папаткала, а цяпер ні тканых уручную кап, ні палавікоў ужо не купляюць, — гаварыла Марыя Пракапюк.

У наш час цяжка спадзявацца вялікага зацікаўлення якраз ткацкімі вырабамі, хаця тканыя ўручную палавікі купляюць яшчэ тыя, што абсталёўваюць свае дамы на даўні лад.

Жывапісец Данель Грамацкі, які вядзе ў музеі мастацкую майстэрню, прадаваў свае карціны. Побач працавала музейная крама, у якой можна было купіць гліняныя вырабы, макаткі, сувеніры і беларускую літаратуру.

— Што ты ведаеш пра Георгія Валкавыцкага? — дапытваўся ў маладой асобы гайнавянін, трымаючы ў руках кніжку шматгадовага галоўнага рэдактара нашага тыднёвіка. Паводле яго трэба нам ведаць пра вядомых ураджэнцаў Гайнаўшчыны.

Рукадзельніцы з клуба „Творчасць” з Брэста прадавалі вырабы з мастацкай і народнай вышыўкай. Прыязджалі яны на падобнае мерапрыемства год назад, а іх вырабы прэзентаваліся на адмысловай выстаўцы ў Беларускім музеі. Побач іх размясціліся прадаўцы дзіцячых цацак. Цікавіліся імі дзеткі, якія ў цёплы і сонечны дзень прыйшлі сюды разам з бацькамі. Некаторыя сямействы параскладалі капы і, седзячы на траве, слухалі беларускую музыку. Многа старэйшых асоб знайшлі сабе месца на шматлікіх лаўках. Аднак найбольш асоб стаяла ў цяні пад дрэвамі.

Перад публікай цікава запрэзентаваліся Ева Іванюк і Адам Лінк з калектыву „Званочкі” Гайнаўскага дома культуры, якімі апякуецца Вера Масайла, вакальны калектыў з Махнатага і гурт „Людзі на балоце” з Гродна, які дзень раней выступаў на фестывалі ў Беластоку.

— Ілона Карпюк запрапанавала нам з’ездзіць у Гайнаўку, выступіць тут. Мы з радасцю ўспрынялі гэтую ідэю. Мы, як цэлы гурт, упершыню выступаем у Польшчы. І ў Беластоку, і ў Гайнаўцы нам падабаецца. На гайнаўскім мерапрыемстве ўсё такое натуральнае. Дзеткі прыходзяць сюды з бабулямі і супольна слухаюць рок, — сказаў лідар гурту „Людзі на балоце” Алесь Дзянісаў.

Удала запрэзентаваліся таксама гурты „Нарва” і „Арт-Пронар” з Нарвы, а таксама менш вядомы на Гайнаўшчыне „Дэкада бэнд” з Беластока. Гайнаўскі гурт „Брыгада дрывасека” вылучаўся сярод іншых выканаўцаў тым, што выступіў з украінскім рэпертуарам.

— Мы ўжо чацвёрты год вядзем беларускія музейныя фэсты, ад часу, калі паспяхова справіліся з матуральнымі экзаменамі ў Гайнаўскім белліцэі. У школе паспяхова ўдзельнічалі мы ў Алімпіядзе беларускай мовы і іншых беларускіх конкурсах. Нам запрапанавалі супрацоўніцтва з Беларускім музеем. Бывае, што адна з нас мусіць выехаць летам і тады другая самастойна вядзе беларускі фэст у нейкай вёсцы. Разам з намі вядучым мерапрыемствы выступіў таксама наш настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі, — расказалі Марыёля Герман, салістка гурту „Арт-Пронар” і Паўліна Паўлючук.



„Людзі на балоце”

Мерапрыемства завяршыў гурт „Чарамшына” з Чаромхі.

— „Чарамшына” лічыцца прызнаным у нашым рэгіёне фолькавым калектывам. Аднак нам больш падабаюцца калектывы з Нарвы, якія прэзентуюць цікавы нам рэпертуар, — сказалі дзяўчаты студэнцкага ўзросту.

У агульным было відаць, што публіка цікавіцца рознымі гуртамі.

— Сёння прадбачаны даўжэйшыя, канцэртныя выступленні паасобных калектываў, так прыблізна па 40 хвілін кожны, і таму фестываль закончыцца ажно вечарам (пачаўся ў 14 гадзін — А. М.), — заявілі арганізатары.

# Чаромхаўскія святкаванні

У траўні мінулага года Чаромхаўская гміна абʼявіла аўкцыён на будову гульнявой пляцоўкі ў рамках урадавай праграмы „Радасная школа”. Таргі на выкананне задачы выйграла фірма са Шчэціна. Кошт інвестыцыі — 211 560 зл. Заканчэнне інвестыцыі прадугледжвалася на пачатак навучальнага года. Але выканаўца не стрымаў тэрміну і здачу абʼекта вызначыў на 15 верасня. Па прычыне выяўленых хібаў прыём быў адтэрмінаваны. Чаргові тэрмін назначаны быў на 6 кастрычніка. І гэтым разам былі выяўлены заганы. Канчатковая перадача пляцоўкі адміністратару наступіла 14 лістапада 2011 года. Затым дзве міністэрскія камісіі правяралі правільнасць выканання задачы. Тым разам паслякантрольных указанняў не было. Рэалізуючы задачу гміна пакарысталася 50-працэнтным дафінансаваннем.

Урачыстае асвячэнне пляцоўкі адбылося 1 чэрвеня 2012 года. У мерапрыемстве ўдзельнічалі войт Юры Шыкула, старшыня Рады павета Мікалай Міхалюк, старшыня Рады гміны Надзея Суліма, намеснік каменданта пагранзаставы паручнік Славамір Раманюк, камендант дзяржаўнай пажарнай каманды Кшыштаф Лянге, праваслаўныя святары — благачынны а. Мікалай Келбашэўскі, а. Мікалай Беламызы з Чаромхі і а. Рыгор Астапковіч з Зубач ды кс. Генрык Каліноўскі з Чаромхі.

Фота Уладзіміра СІДАРУКА



Афіцыйная частка пачалася а дзевятай раніцы. На пляцоўцы побач школы сабраўся шматлюдны натоўп. Самую большую частку складалі вучні Пачатковай школы з дашкольнікамі, кола настаўнікаў, радныя, працаўнікі гміннай адміністрацыі ды жыхары пасёлка. З нагоды Дня дзіцяці і перадачы пляцоўкі для гульняў дзяцей павіншавалі дырэктар школы Марыёля Шыманчук і войт Юры Шыкула. Цырымоніі перарэзання стужкі ўдастоіліся войт Юры Шыкула, благачынны а. Мікалай Келбашэўскі, кс. Генрык Каліноўскі і трое дашкольнікаў. Пасля святары адслужылі супольны малебен і асвяцілі пляцоўку. Як канстатавала загадчык школы, гульнявая пляцоўка будзе даступнай дзеткам ад раніцы да змроку пад наглядам вызначанага апекуна.

У гэты ж дзень а 13 гадзіне на стадыёне „Орлік” пачаліся спаборніцтвы па футболе і валейболе за кубак войта. У футбольным турніры ўдзельнічала шэсць каманд: ОСП Чаромха, Насычальня, Пагранічная ахова, Управа гміны, „Калеяж” і „Маладое пакаленне”. Кубак войта заваявала каманда „Калеяж”. На другім месцы апынулася „Маладое пакаленне”, а на трэцім — каманда Насычальні. Адпаведна чарговыя месцы занялі ОСП, Пагранічная ахова і Гмінная ўправа. У валейбольным турніры ўдзельнічалі дзве жаночыя каманды: Маладзёжная пажарная каманда і Таварыства „Амега”. Перамагла каманда пажарнікаў. Варта адзначыць, што спаборніцтвы праходзілі ў час дажджавога надвор'я. Нягледзячы на гэта, як чаромхаўскім спартсменам, так і школьнікам абедзве імпрэзы ў Міжнародны дзень дзіцяці далі шмат задавальнення.

Уладзімір СІДАРУК


Малебен на Гушчэвай гары

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Сумная рэчаіснасць

Шматлікія госці агратурыстычных сядзіб і пансіянатаў Крынскай гміны, якія ў свята Божага Цела апынуліся на экуменічным шляху — адным з галоўных турыстычных атракцыёнаў Надлясніцтва Крынкі, былі сведкамі незвычайнага здарэння. Апрача сталых пунктаў наведвальнай праграмы ў іх паявілася магчымасць удзельніцтва ў сапраўдным праваслаўным малебне. Якраз на самой вяршыні Гушчэвай гары, маляўніча распаложанай над штучным возерам Азяраны, у месцы экуменічнага алтара сабралася праваслаўная моладзь Беласточчыны. У присутнасці духоўных настаўнікаў: беластоцка-гданьскага ўладыкі Іакава, настаяцеля Супрасльскай лаўры архімандрыта Андрэя, айцоў Андрэя Паплаўскага, Пятра Баравіка, Міраслава Філіманюка і Марка Ваўранюка — апекуна Брацтва праваслаўнай моладзі Беластоцка-Гданьскай епархіі адбыўся ўрачысты малебен, пачынаючы першы епархіяльны маладзёжны фэст. Паводле слоў братчыка Дар'юша Сулімы, мерапрыемства сарганізавала Брацтва праваслаўнай моладзі Свята-Духавага прыхода ў Беластоку пры выдатнай падтрымцы Надлясніцтва Крынкі. Менавіта крынскі віцэ-надляснічы Аляксандр Ліцкевіч заахвоціў братчыкаў правесці сустрэчу над Азяранскім вадаёмам. Фэст пачаткова быў запланаваны ў крыху пазнейшы тэрмін, але па прычыне футбольнага шаленства арганізатары пабаяліся, што запрошаныя выберуць матч Польшча-Грэцыя і рашылі запыніцца на выхадных, якія пачынала Божае Цела. Дарэчы, дзень касцельнага свята з заўсёды спрыяльным надвор'ем дадаткова гарантаваў поспех праваслаўнаму фэсту.

Над Азяранскае возера з'ехаліся маладыя людзі з Беластока, Гарадка, Саколкі, Супраслі, Заблудава і Крынак. Можна было таксама спаткаць і мясцовых старажылаў. Адна ветлівая бабуля паявілася тут у кампаніі дачкі і ўваходзячага ў дарослае жыццё ўнука. Бабуля з матуляй угаварылі хлопца, каб падкінуў іх сюды на сваёй машыне. Увайшоўшы на самую вяршыню немалога ўзгорка жанчына, якой ужо больш за восемдзесят гадоў, раптам успомніла свой дазамужні перыяд. Каліс тут таксама праводзіліся маладзёжныя сходы. Навакольныя вяскоўцы здаўна выбіралі Гушчэвую гару для вясёлых гулянак па ранняй, юр'еўскай расе. Ні лесу, ні возера тады тут не было. Паўсюль расцягваліся палі і пашы. Узгоркаваты ландшафт асабліва спрыяў жніўеньскім спевам, якія ў форме дыялогу вялі між сабою гурты беларускіх жнячоў. Жачыны крыху нязручна адчувалі сябе ў вельмі маладой кампаніі. Праўду сказаўшы, ім моцна хацелася, каб сюды папаў іх любімы хлопец. З нейкага часу стаў ён прычынай працяглых сямейных турбот і сумавання. Адкуль пачаў сустракацца з прыгажуняй з Ломжы, стаў вельмі праціўным, мабыць, крыху чужым ім. Слава Богу, згадзіўся саставіць кампанію жанчынам у час інаўгурацыйнага малебна.



Урачыстую пропаведзь да ўдзельнікаў фэсту сказаў уладыка Іакаў. Гаварыў ён перш за ўсё пра праблему знікання праваслаўя на Падляшшы. У адрозненне ад захаду Еўропы, дзе ўсходняе хрысціянства здабывае штораз больш прыхільнікаў, нашае маладое пакаленне ўцякае ад царквы, сваё патомства водзіць у храмы іншых канфесійных супольнасцей. Уладыка даў таксама прыклад служаных у беластоцкім саборы акафістаў мучаніку дзіцятку Гаўрыілу — заступніку моладзі, на якіх прысутнасць з году ў год радыкальна скарачаецца.

Вернасці рэлігіі продкаў датычыў таксама дыскусійны семінар — чарговы пункт праграмы фэсту.

Да маладых удзельнікаў сустрэчы былі накіраваны пытанні, між іншым, пра месца і значэнне праваслаўя ў штодзённым жыцці, як стварыць больш атракцыйнай царкоўную структуру, якія патэнцыяльныя змены туды ўвесці. У кантэксце вернасці рэлігійнай спадчыне паявілася пытанне пра нацыянальную тоеснасць. На жаль, усе маладыя дыскутанты спасылаліся на аргументы дапаможныя ў ідэнтыфікацыі выключна з польскай нацыянальнасцю. У адзін голас акрэслілі яны сябе праваслаўнымі палякамі. Як заўважыў адзін з вядучых дыскусію свяшчэннікаў, абыякавасць у стаўленні да нацыянальнай свядомасці з'яўляецца адной з прычын абрывання сувязей з праваслаўнай царквой на нашай зямлі. На дапамогу моладзі прыйшоў прадстаўнік Луцкай і Валынскай праваслаўнай епархіі. Ён прапанаваў пагледзець на праваслаўе не толькі як на традыцыю, дадзеную продкамі, а перш за ўсё як на самую ў сабе незалежную вартасць.

Пасля духоўнай сустрэчы гасцей фэсту чакала яшчэ багатая, забаўляльная праграма: дэманстрацыя пажарнай тэхнікі, паказ сакалінага палявання, спартыўныя гульні, каўбаса з вогнішча і танцы пад гукі калектываў „Сказка”, „Луна” і „Нарва”.

Віцэ-надляснічы Аляксандр Ліцкевіч выказаў падзяку Беластоцкаму брацтву за прыбыццё і супрацоўніцтва у падрыхтоўцы фэсту і заахвоціў да чарговых праваслаўных сустрэч на тэрыторыі Крынскага надлясніцтва.

Мікалай ВАРАНЕЦКІ

# Народны фэст у Альхоўцы

Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы разам з Гмінным асяродкам культуры ў Нараўцы зладзілі мастацкі фэст з цыкла „І там жывуць людзі” ў Альхоўцы; мерапрыемства адбылося 2 чэрвеня, у Бацькоўскую памінальную суботу.

Спярша маліліся ў нараўчанскай царкве, а ў поўдзень адбылося праваслаўна-каталіцкае шэсце цераз усю вёску, ад крыжа да крыжа. Выключна непрыхільным было надвор'е: дзьмуў халодны вецер з дажджом і без курткі нельга было вытрымаць.

Нягледзячы на холад і дождж шмат людзей а 15-й гадзіне прыйшло ў вясковую святліцу паглядзець мастацкую частку ў выкананні аматарскіх калектываў з Гайнаўкі, Махнатага, Нараўкі, Бельска і Нарвы. Гучалі пераважна беларускія народныя і фальклорныя песні. Маім суседзям вельмі спадабаўся гурт „Мэтро” з Гайнаўкі, а мне асабіста салістка з „Дэкады-Бэнд” з Бельска-Падляшскага, маладзенькая Маргарыта. Яна вельмі выразна, у сучасным эстрадным стылі спявае і забаўляе публіку.

Хто хацеў, мог купіць патрэбную кніжку, нехта шкадаваў, што не было артыстаў з Беларусі, але яны з'явіліся на наступны дзень.

У нядзелю, на Сёмуху, пацяплела, выглянула сонца і на вуліцы ў Альхоўцы з'явілася „Жэмэрва” з Бельска разам з групай жанчын з Кобрыншчыны (Брэсцкая вобласць). Яны танцавалі на асфальце і спявалі старадаўнія песні. Да танцаў далучыліся маладыя целам і духам жыхары вёскі, пад чароўныя гукі баяна, на якім прафесійна іграла артыстка з Беларусі. Яна таксама прыгожа праспявала некалькі лірычных песень. Было на што глядзець.

Нашыя гаспадыні спантанна частавалі гасцей пірагамі і напіткамі ды жадалі ўсяго найлепшага. Такім чынам Альхоўка святкавала два дні; госці яшчэ выступілі ў суседнім Масеве.

Вуліца ў Альхоўцы апусцела, але яна ўся патанула ў майскай зелені, а мне падумалася, як добра летам жыць пенсіянерам у такой зялёнай вёсцы. У галаве стаў складацца верш:

*Зялёная Альхоўка ў канцы мая,*
*Вясна-красна ўжо пераходзіць у лета,*
*Цяплом пяшчотным чэрвень нас вітае,*
*Я знаю: з года ў год тут будзе гэтак.*
*Настане сенакос і прыйдзе бура*
*З маланкамі, з магутным громам*
*І зашуміць, і забурліць прырода,*
*Вясёлка заблішчыць пад небасклонам.*
*Нам холад надаеў зімою,*
*Цяпло нам для жыцця патрэбна,*
*Летняе сонца нас няхай нагрэе*
*І сілу дасць, здароўе і натхненне.*
*Зялёная вясна ўжо адплывае,*
*Гарачае прыходзіць лета.*
*Рэчка і лес, і поле нас чакаюць,*
*Я знаю: з года ў год тут будзе гэтак.*

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

# Чужы сярод сваіх

„Я пэўна не меў бы магчымасці пагаварыць з Дамінікам Аніськам, калі б не тое, што ў гэты час займаўся латаннем кніжак", — прызнае Браніслаў Савінскі, даўней жыхар Слойнік, цяпер пенсіянер з Саколкі. У яго захаваліся першыя нумары газеты „Хрысціянская думка" з 1928-1930 гадоў, двухтыднёвіка прызначанага беларусам-каталікам.

*I*

Браніслаў Савінскі нарадзіўся і жыў на калёніі Слойнікі.

— На пачатку мы былі пабудаваныя ў вёсцы, але пасля камасацыі перабраліся на калёнію.

Бранісаў вучыўся ў пачатковай школе ў Янаўшчыне, якая ў той час была расейскай.

Уступіўшы ў мясцовую партызанку, прымаў удзел у акцыі „Бура". Калі выпадкова апынуўся на сакольскіх могілках, дзе хавалі заслужанага для рускіх міліцыянта, неасцярожнасць Браніслава прычынілася да гадавога зняволення ў розных турмах на поўдні Польшчы.

— Я сказаў штосьці супраць тагачаснага ўрада. А гэта быў красавік. Сама пасля святаў. Я выбраўся з дзяўчатамі з Саколкі на шпацыр. Штосьці адбывалася на могілках, было многа людзей. Падумалі, што ўвойдзем пабачыць каго хаваюць. Прамаўляў нават якісь таварыш. Я ўжо не помню, што я сказаў. Хтосьці данёс, бо схапілі мяне зараз пры выхадзе з могілак.

Браніслаў сядзеў у турме ў Беластоку, адкуль быў пераведзены ў Рамбертаў. Тут расейцы пратрымлівалі жаўнераў АК і НЗС. У маі зняволенага Браніслава перавялі ў Познань, пасля ў Равіч. Згэтуль ужо мог напісаць дахаты.

— Па-рознаму было ў паасобных турмах. Мы стараліся жыць нармальна. Я стаў краўцом. Меў іголку, нітку. Як трэба было камусьці каўнер прышыць ці гузік, тады заўсёды мяне клікалі да гэтай работы.

Браніслава і іншых зняволеных з Падляшша перавялі ў турму ў Беласток.

— Бацька выцягнуў мяне адтуль. Пры канцы снежня ўжо я быў у хаце.

У Слойніках Браніслаў заняўся культурнай дзейнасцю. Заснаваў святліцу, тэатральны гуртох, да якога належалі дзяўчаты і хлопцы са Слойнік. Будучы на адпачынку ў Чэмпіне, навучыўся рабіць лялькі. Так узнік дзіцячы лялечны тэатр „Пчолка".

На пытанне, чаму Браніслаў нічога не зрабіў для падтрымання памяці пра Дамініка Аніську, дае простую прычыну.

— Гэта было беларускае. Тым нельга было займацца.



91-гадовы Браніслаў Савінскі гартае падшыўку „Хрысціянскай думкі"

*II*

У Слойніках забылі Дамініка Аніську. Старэйшыя жыхары вёскі, якіх ужо мала, больш помняць яго як аднавяскоўца, мудрага чалавека, ніколі як беларуса ці аўтара тэкстаў у „Хрысціянскай думцы".

— Мой дзядзька часта ўспамінаў, што Дамінік у адной з гутарак сказаў, што ў будучыні зробяць штосьці такое, калі кожны чалавек у сваёй хаце будзе мог паглядзець што робяць у Амерыцы, — згадала жыхарка Слойнік Мар'яна. Больш нічога яна не можа сказаць, таму што сама родам з суседняй Янаўшчыны.

Сам Браніслаў таксама добра не помніць Аніські. Пасля камасацыі, калі перабраліся на калёнію, намнога менш ведалі, што чуваць у суседзяў з вёскі. Толькі раз меў магчымасць пагаварыць з Дамінікам. Сустрэліся на вуліцы. Аніська, убачыўшы Браніслава, выйшаў яму насустрач.

— Гэта быў прыстойны чалавек. Тады мне было семнаццаць гадоў, а ён ужо па войску быў. Таму мы не сябравалі. Мне здаецца, што ў яго не было тут, у Слойніках, калег. У Вільні пэўна што так, а тут яго амаль не было.

Аніська даведаўся, што Браніслаў займаецца пераплётнай справай. Такім чынам у рукі Савінскага трапіла дваццаць чатыры нумары „Хрысціянскай думкі".

— Я, напрыклад, не ведаў аб такой газеце. Прыходзіў „Рыцар Беззаганнай", бо ад суседзяў пайшоў адзін хлопец у манастыр. Аніська можа паказваў у хаце, але ў вёсцы, здаецца, людзі не бачылі гэтай газеты. Я не пытаўся іх, але і не заўважыў, каб хтосьці яе чытаў. Ніхто пра гэтую газету не гаварыў, ніхто не пытаўся аб яе.

Савінскі гартае старонкі ідэальна захаванай газеты.

— Трэба было купіць спецыяльны клей, паперу ў Саколцы. Я не спяшаўся з пераплётам і Дамінік таксама не паганяў мяне.

У гады Другой сусветнай вайны Аніська трапіў на фронт, у армію генерала Андэрса. Ніколі больш не даваліся яму наведаць сваёй роднай вёскі. Браніслаў хацеў паслаць газету ў Лондан, дзе пабываў Аніська, цераз мужчыну са Слойнік, які меў мянушку Мазур (быў мужам пляменніцы Дамініка). Аніська дапамагаў сям'і, прысылаючы пакункі з адзеннем. У адным з лістоў, якія Дамінік пісаў Мазуру, згадаў, каб не перасылаць яму ў Лондан „Хрысціянскай думкі". Як прыгадвае Браніслаў, газета кружыла па людзях, толькі два гады таму вярнулася да яго.

Любімай рубрыкай Браніслава ў „Хрысціянскай думцы" з'яўляецца тая, дзе друкуецца паэма Вінцука Адважнага „Як Ганулля збіралася ў Аргентыну". Натуральна, што таксама чытаў тэксты свайго аднавяскоўца Дамініка Аніські.

— Ён піша праўду. Піша як жыць з Богам. Ён лічыў сябе беларусам і ўсіх тут навокал.

Браніслаў з беларускіх часопісаў чытаў таксама „Ніву". Да сёння трымае выданне, у якім быў тэкст пра суседнюю вёску Вайнахі.

*III*

„Хрысціянская думка" пачыналася гравюрай, якая прадстаўляла постаць Ісуса Хрыста са снапом пшаніцы ў адной руцэ. У другой трымаў серп. Спадарожнічала гэтаму красамоўная цытата з Евангелля святога Мацвея: *I źbiare swaju pšanicu ú humno, a paśledki spale ahniom niaúhasnym.* Ад 1929 года гравюра прадстаўляла Хрыста-агародніка, які прывязвае да маладога дрэва крыж.

„Хрысціянская думка" друкавалася ў эпоху беларускага нацыянальнага адраджэння. Аніська ў аўтабіяграфіі падкрэслівае, што ў сваіх артыкулах стараўся надаць ёй хрысціянскі кірунак. У адзінаццатым нумары „Хрысціянскай думкі" піша: *Treba narodu adradzicca, a pieršym krokam adradžeńnia — heta jaho nacyjanalnaja świedamaść, heta zrazumieńnie swajho nacyjanalnaha „ja".* Яго тэксты насычаныя турботай за Айчыну, за беларускамоўнае насельніцтва.

Дамінік Аніська добра ведаў сваіх землякоў. Ведаў, што польскі касцёл не пакідае месца на пытанне аб нацыянальнасць. Шмат сваіх тэкстаў прысвяціў тэме неабходнасці ўвядзення беларускай мовы ў касцельны ўжытак. Ён быў упэўнены, што галоўным чынам тое перашкаджае знайсці людзям сваю беларускую тоеснасць. У пятнаццатым нумары „Хрысціянскай думкі" піша: *Patreba úžywańnia biełaruskaj mowy, jak mowy pryrodnaj Biełarusaú, u relihijnym žyćciu, zdajecca, jość reč tak jasnaja, tak prostaja, adnak jak-ža-ž dziúna, što treba jašče pierakonwać świet u hetym! (...) A my Biełarusy i ú dalejšym našym narodnym žyćciu úsiožtaki pojdziem za Im — za Chrystusam! (...) Pojdziem i zapiajom na jaho češć himn pa swojmu! Bo Jon zrazumieje i pa našamu.* Пішучы лацінкай трапляў да шырокага кола беларусаў, аб чым сведчаць лісты ад чытачоў, якія друкаваліся на старонках „Хрысціянскай думкі". Аніська ў сваіх тэкстах палемізаваў з польскім нацыяналізмам, які не дазваляў беларусам карыстацца сваёй мовай. Відаць, што ён клапоціцца за будучыню беларусаў. Адзін з тэкстаў, прысвечаных тэме нацыянальнай свядомасці, Дамінік канчае такім адчайным фрагментам: *Wy úsie, braty, katoryja dajšli da zrazumieńnia, chto wy takija, a katoryja spatykajeciesia štodnia z swaim narodam woka ú woka, wy adchilicie zasłonu prad wačyma swaich Bratoú niaświedamych i pakažycie im praúdu — chto Jany takija, skažycie im, što Jany Biełarusy!*

Дамінік Аніська дажыў у Беларускім доме ў Лондане. Яшчэ да сёння ў Слойніках стаіць яго родная хата. Цяпер у ёй жывуць чужыя людзі, якія не ведаюць гісторыі гэтага месца, гісторыі чалавека, які тут жыў.

## Травеньская імпрэза ў ТБК

26 траўня, як звычайна ў апошнюю суботу месяца, у Таварыстве беларускай культуры ў Вільні адбылася чарговая імпрэза. За вясну ў Вільні адбыўся цэлы шэраг падзей, звязаных з беларускай культурай, таму асноўнай тэмай імпрэзы была прэзентацыя адбыўшыхся мерапрыемстваў.



На пачатку імпрэзы прэзідэнт студэнцкае асацыяцыі „StudAlliance" Кірыла Атаманчык прэзентаваў серыю мерапрыемстваў, арганізаваных асацыяцыяй, пад назвай „Беларуская вясна". У межах гэтае кампаніі адбыўся шэраг фотавыставак, мастацкіх перформансаў, а напрыканцы траўня кампанію гучна закончыў канцэрт „Салідарнасць з Беларуссю", на якім выступілі вядомы берасцейскі альтэрнатыўны гурт „Сцяна" і не менш вядомы выканаўца гіп-гопу Вінсэнт, які згуляў асноўную ролю ў фільме „Жыве Беларусь".

Далей мерапрыемства працягнуў віленскі беларускі навуковец Юрась Юркевіч. Юрась, з дапамогай калег, апошнім часам зрабіў велізарную працу па зборы невядомых дакументаў часоў БНР. На нашай імпрэзе Юркевіч прэзентаваў вялікую колькасць дакументаў з сабранага матэрыялу. Сярод дакументаў, здымкі якіх паказваў навуковец, былі невядомыя дакументы Антона Луцкевіча і іншых вядомых беларускіх дзеячаў, БСРГ, беларускіх вайсковых фармаванняў таго часу, а таксама невядомыя фотаздымкі.

Таксама ў траўні гэтага года ў нашым Таварыстве адбылася надзвычай радасная падзея — споўніліся 92 гады заслужанаму чальцу нашае арганізацыі Ніне Брылеўскай (на здымку). Спадарыня Ніна пражыла надзвычай доўгае і насычанае падзеямі жыццё, доўгі час працавала настаўніцай, ад самага стварэння ТБК з'яўляецца адданай яго прыхільніцай.

**Пятро ШЫБА**

## Конкурс

У Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) шмат гадоў ладзяць конкурс на найпрыгажэйшую сялянскую сядзібу. У ім удзельнічаюць жыхары звыш дзесяці вёсак, у тым ліку Альхоўкі, Семяноўкі, Тарнопаля, Скупава, Заблотчыны, Плянты, Нараўкі, Янова, Свінароля і Новага Ляўкова. Заяўкі трэба дасылаць да 30 чэрвеня г.г. у Гмінную ўправу, Гміннаы асяродак культуры або падаваць солтысам.

Конкурсная камісія наведае сядзібы ў ліпені або ў жніўні. Яна ацэніць эстэтыку сялянскіх панадворкаў і кветкавых агародчыкаў ды стан дбайнасці пра сельскагаспадарчыя машыны.

Уручэнне дыпломаў і грашовых узнагарод адбудзецца восенню на першай вераснёўскай сесіі нараўчанскай Гміннай рады.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Жывінкі на юбілеі



Фота Ганны Кандрацюк

У час святкавання 15-годдзя навучання беларускай мове ў Беластоку былі паказаны фрагменты тэатральнага эцюда паводле кніжкі „Жывінкі з глыбінкі". У пастаноўцы выступілі дзяўчаткі з трэцяга класа: Зося Конюх, Юля Іванюк, Наталька Савіцкая, Юліта Якімюк, Нютка Карнілюк, Бася Лук'янюк і Оля Пугацэвіч. Хоць пастаноўку бачыла я ўжо другі раз, яна ўражвала свежасцю. У ёй каштоўная прыкмета — надта выразнае і вытанчанае літаратурнае слова. Каб прысвоіць знакамітыя ў філалагічным сэнсе вершы Міры Лукшы, трэба ўвагі і працы.

— Шмат якія словы трэба было патлумачыць, — кажа Аліна Ваўранюк. — Але яны падабаліся дзецям, таму не было вялікай натугі і праблем. На сённяшні дзень зроблена восем песень. Песня пра Жука з Жукоў мае шанц стаць дзіцячым шлягерам. Тут прамаўляюць словы, музыка, аранжыроўка і вакальныя здольнасці Зосі Конюх. Прыгожа і вытанчана гучыць таксама песня пра Ласянят з Ласіннянаў, якую выконвае галасістая Юля Іванюк. Падрыхтаваная ўжо песня пра Вераб'я з Вераб'ёў (выконвае Бася Лук'янюк), пра Сароку з Сарочай Ножкі (Нютка Карнілюк), пра Дзіка з Дзікіх (яе спяваюць Юля, Зося і Наталька Савіцкая) ды песенька пра Кныра з Кнаразоў у выкананні Зосі і Олі Пугацэвіч. У эцюдзе прыгожая музыка. Спецыяльна для пастаноўкі яе напісала настаўніца Анна Бабік. Калі ідзе пра тэатральныя справы — тут адчуваецца рука прафесіянала. Над спектаклем разам з Алінай Ваўранюк працуе акцёр Бернард Баня.



Фота Ганны Кандрацюк

— Спектакль будзем рыхтаваць і дасканаліць цягам наступнага школьнага года, — дадае настаўніца беларускай мовы з беластоцкай „чацвёркі".

— Чаму рашыліся якраз на „Жывінкі з глыбінкі"?

— Мы ставілі ўжо пастаноўкі на словы Віктара Швела, цяпер падумалі пра Міру Лукшу. Хочам паказаць аўтараў, якія жывуць і пішуць у Беластоку.

Апошняя справа вельмі моцна ўздзейнічае на свядомасць дзяцей. Яна паказвае, што беларуская культура жыве там, дзе жывуць беларусы, неабавязкова ў адной Рэспубліцы Беларусь. (У апошнія гады такі погляд апраўдваюць удзельнікі конкурсу „Пазнай Беларусь"). Прэзентацыі мясцовых аўтараў, музыкантаў і выканаўцаў уплываюць таксама на свядомасць сяброў-палякаў. Пра гэта мы даведаліся ў час школьнага Фестывалю культур народаў, які праходзіць у Беластоку. Амаль усе прадстаўнікі нацыянальных культур былі прыезджыя. А беларусы выступілі як свае, беластачане з суседства. У час прэзентацыі нашай культуры чуліся каментарыі тыпу: „Ja wszystko rozumiem!".

ЗОРКА

## Вершы Віктара Шведа

### Ці ты лётаў самалётам?

Ясь спытаў дзедку Фядота:
— Ці ты лётаў самалётам?
Дзедка адказаў малому:
— Лётаў, лётаў я, вядома.

— Ці агортваў страх балючы?
— Толькі першы раз, унучак.
— А што здарылася потым?
— Больш не лётаў самалётам.

### Марудны слімак

Штораз больш вясны прыкмет,
Цяпла многа веснавога.
З хаткі выглянуў на свет
Слімак выставіўшы рогі.

Скіраваў направа зрок —
Усход сонейка угледзеў.
Калі ў левы глянуў бок —
Сонейка зайшло ўжо недзе.

Адам ХАРКЕВІЧ, Новая Лука

### Купалле

Купалле гэта час
Забаваў і гульні.
У гэту ноч якраз
Зацвіў цвяток адзін.
І гэта кветка-чар
Цвіце разок у год,
У гэту ноч якраз
Шукае яе народ.
Хто знойдзе
кветку-папараць,
Аб ёй жа мова тут,
Не будзе ведаць турбот
Цэлы круглы год!



# Конкурс пра лета (26)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам лета. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Якія народныя традыцыі, звязаныя з Купаллем, захаваліся на Беласточчыне?**

а) танцы ля вогнішча,
б) збіранне лекавых зёлак,
в) танцы і карагоды.

**2. Назавіце прозвішча беларускага футбаліста, які выступае ў адной з польскіх каманд?**

а) Роберт Левандоўскі,
б) Сяргей Крывец,
в) Зоран Ібрамовіч.

**3. Назавіце імя акцёркі, якая заснавала прафесійны беларускі тэатр у Шчытах?**

а) Іаанна Стэльмашук,
б) Галіна Дзягілёва,
в) Марыся Ілёна.

**4. Якое спартовае мерапрыемства будзе арганізаваць Рэспубліка Беларусь?**

а) чэмпіянат свету па валейболе,
б) спаборніцтвы ў штурханні ядра,
в) чэмпіянат свету па хакеі.

Адказы дасылайце да 8 ліпеня 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

Адказ на конкурс № 24: **а-б-б-а.** Узнагароды, **кампакт-дыск з дзіцячымі беларускімі песнямі**, выйгралі **Наталля Марчук і Стэфан Харкевіч** з Нараўкі.

ЗОРКА

— Хто ведае які дар даў нам Гасподзь?

— Жыццё, — адказала Зузя.

— Вось разумнічка! — пахваліў інак Мікалай і сам назваў наступны дар: — Гэта слова. Роднае слова наш найбольш дар.

У нашую школу заўсёды прыязджалі госці. Бываюць аднак такія сустрэчы, якія памятаем усё жыццё. 15 чэрвеня ў праваслаўную школу ў Беластоку завітаў легендарны паэт Зьніч, інак Мікалай з манастыра ў Жыровічах. Ужо з першай секунды ён наклікаў давер дзетак, называючы сябе дзедам. Дзень раней дзеткі вярнуліся з экскурсіі ў Мінск, Мір і Нясвіж, таму сустрэча з госцем з Беларусі здавалася яшчэ больш цікавай і пажаданай. Інак Мікалай напачатку памаліўся з дзеткамі, а пасля прапанаваў развучыць ім свае вершыкі. Спачатку за аўтаручкі ўзяліся хлапчукі і ўсе як адзін муж, нават тыя, якія не ходзяць на беларускую мову, запісалі радкі прапанаваныя госцем:

*Блакіт нябёс і белы бусел,*
*і кветкі ў полі як абрус.*
*Мой Край завецца — Беларуссю,*
*А сам я — хлопчык-беларус.*

# Зьніч у беластоцкіх школьнікаў



Дзяўчынкі, якіх дарагі госць вучыў быць лагоднымі і паслухмянымі, запісалі:

*Блакіт нябёс і белы бусел,*
*і кветкі ў полі — быццам хустка.*
*Мой Край завецца Беларуссю,*
*А я — дзяўчынка-беларуска.*

Усе другакласнікі паабяцалі развучыць на памяць вершыкі і памятаць іх усё жыццё. У класе адчуваліся давер і сардэчнасць. Пасля моманту перадышкі дзяўчынкі і хлопчыкі запісалі верш паэта Зьніча. Ён адрасаваны тым, хто бярэ шлюбны вянец, які — калі ён данесены да канца — прыроўніваецца да вянца мучанікаў.

*Будзь ласкавай і маўклівай...*
*Паслухмянай і цярплівай...*
*Малітоўнай... працалюбнай...*
*і не збоч з дарогі шлюбнай...*

Хлопчыкам:

*... Не абрыдлым небаракам —*
*Будзь заўсёды мілым... любым...*
*Каб саюз Ваш быў не ракам,*
*А сапраўдным,*
*Божым шлюбам!*

Дзеткі запісалі ўсё ў сшыткі і паабяцалі ўзяць у сэрца навукі дзядулі-манаха. Сустрэча мінула як адзін міг, а мы на памятку зрабілі цудоўныя здымкі.

**ЗОРКА**

# Музыка з кайфам

## Да „Басовішча”

Новая традыцыя сустракае фанатаў фестывалю „Басовішча” яшчэ да пачатку галоўных канцэртаў. Хто сочыць кожны год за падзеямі і падрыхтоўкай да нашага выдатнага фестывалю, заранёў рыхтуецца на гэтак званы „Біфор” (*Before Basowiszcza*). Гэта фантастычны момант, каб успомніць штогадовыя эмоцыі, сустрэцца з сябрамі, якім ужо не дачакацца канцэртаў ды паслухаць цікавых выканаўцаў. Сёлета партнёрам БАСу ў арганізацыі *Басовішча* з'яўляецца аб'яднанне „Культурна-грамадская хутка дапамога”, якая штодзень сядзіць у Беластоку на „Ванглёўцы”, таму і там ужо 7 ліпеня варта сустрэцца пры музыцы „Drum Ecstasy”!



Хаця матэрыял на апошні альбом „драмэраў” звездзены ў 2010 годзе, альбом зараз у Беларусі лічыцца новым. „Play loud” („Грай голасна”) гэта перш за ўсё фантастычная энергетыка, якой акраз гурту заўсёды хапае. Але ў выпадку гэтага альбома ёсць і свая фішка. Гурт, які заўсёды асацыяваўся з абсалютна жорсткім гучаннем, бескампрамісным стаўленнем да гуку, зараз прыносіць нам меладычныя кампазіцыі. Можа гэта здзівіць, але ёсць пару аргументаў, якія тлумачаць такі накірунак. Напэўна мае тут значэнне факт, што „Drum Ecstasy” існуе з 1993 года. Амаль 20 гадоў гульні з бубнамі можа прынесці ахвоту да змен. Варта дадаць, што ў 2010 годзе гурт сustварыў балетны спектакль „Where water flows uphill” („Дзе вада плыве ўверх”). Гэта пастаноўка шведскага харэографа Сыбрыда Доктэра, у якой танцавала беларуская група „Каракулі”, а скарыстана была музыка „Drum Ecstasy”. Такі вопыт безумоўна ўплывае на стыль музыкі, адкрывае новыя гарызонты, накіроўвае ў новыя творчыя абшары.

„Drum Ecstasy” гэта безумоўна гурт якім трэба ганарыцца. Не толькі грае якасна, але ўмее таксама мастацка рэалізавацца на разнародных нівах. Хаця ў музыкаў ёсць свае прафесіі, гурт здаецца быць у Беларусі адзіным незалежным выканаўцам, які мог бы ўтрымацца толькі з музыкі. Яны ведаюць для чаго драмэрская музыка і як яе… „прадаваць”. Не бачу інакш — 7 ліпеня сустракаемся на „Ванглёўцы”!

i_basovka@o2.pl

# Мае каханыя бабулі

Мае каханыя бабулі гэта Марыся са Ставішч каля Чаромхі і Галіна з Кошак каля Орлі.

Я жыву з бабуляй Марысяй у адной хаце. Яна заўсёды мяне галубіць і дае многа салодкага. Бабулю Галіну сустракаю рэдка, але таксама мяне распешчвае. З усімі турботамі звяртаюся да бабулі Марысі. Абедзве бабулі прысвячаюць мне многа часу.



У сям'і гавораць, што мой нос і вочы падобныя на Марысіныя.

Я вучуся беларускай мове ўжо чацвёрты год і з бабулямі стараюся гаварыць па-свойму. Я заўважыла, што бабуля з Кошак гаворыць мякка, так як мы вучымся на ўроках, а бабуля са Ставішч — цвёрда, але я таксама яе разумею. Я часта чую як бабуля Марыся спявае і гаворыць вершыкі. Думаю, што яна мае вельмі добрую памяць, бо завучыла іх яшчэ ў школе. Бабуля Галінка пячэ смачнае піражнае.

Мае бабулькі любілі гуляць са мною цацкамі. Зімовымі вечарамі з бабулямі я вучылася вышываць і мы супольна спявалі беларускія песні. Я вельмі любіла праводзіць час са сваімі каханымі бабулямі.

**Ева ПАНАСЮК**

# Польска-беларуская крыжаванка № 26

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 22:**

Стог, ражок, неба, незабудка, рой, склеп, Ніл, як, змест. Нос, сонейка, балет, граф, жаданне, шоўк, атлет. Узнагароды, майкі з лагатыпам „Нівы”, выйгралі **Міколка Здрайкоўскі** з Беластока і **Моніка Раманюк** з Арэшкава. Віншуем!



# Нашае гняздо

Фота і тэкст Іаанны ЧАБАН

Сапраўдная культурная падзея адбылася ў Шудзялаве 5 чэрвеня 2012 года. У мясцовы дом культуры з’ехаліся аматары рэгіянальнай спадчыны амаль з цэлага Падляшскага ваяводства і не толькі. Нагодай было падсумаванне вынікаў восьмага выпуску Ваяводскага літаратурнага конкурсу пра гісторыю рэгіёна „Нашае гняздо”.




Гмінны асяродак анімацыі культуры і рэкрэацыі ў Шудзялаве здаўна славіцца дзейнасцю ў карысць папулярызацыі спецыфікі мясцовага фальклору. Ладзяцца тут, між іншым, шматлікія майстар-класы па рукадзеллі, супольна з найстарэйшымі жыхарамі гміны рэканструюючы даўнія абрады і звычаі. У канцы 2011 года паявілася публікацыя ў форме календара „Шляхам кафляных печак”, якая падсумавала цыкл экспедыцый, ладжаных шудзялаўскім асяродкам.

Паводле дырэктаркі шудзялаўскага асяродка культуры Альжбеты Ярашэвіч, менавіта ўдзельнікі згаданых мерапрыемстваў пачалі шукаць спосабаў зберажэння і распаўсюджання дасюлешніх дасягненняў. Паўставала штораз больш занатовак, вопісаў, інструкцый колішняга мясцовага ладу жыцця. Паявілася пытанне што з гэтым рабіць далей. Па падказ спадарыня Алжбета звярнулася да тадышняй віцэ-дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку Барбары Пахольскай. Паявілася думка пра шырокамаштабны, літаратурны конкурс, накіраваны да дзяцей і дарослых, вучняў, настаўнікаў, бацькоў, аматараў гісторыі і традыцыі сваёй малой айчыны.





Такім чынам ужо восьмы год на адрас шудзялаўскага асяродка культуры прыходзяць конкурсныя работы з розных куткоў Падляшскага ваяводства, Польшчы і заграніцы. Былі працы, між іншым, з Літвы, беларускага Адэльска, Любліна, Ольштына, Гнезна. Ёсць таксама сталыя, верныя ўдзельнікі, якія кожны год дасылаюць новыя тэксты. Тыччыца гэта перш за ўсё вучняў шудзялаўскай школы, у тым ліку гімназістаў Юліі Кэндысь і Філіпа Кужавы, якія з „Нашым гняздом” звязаныя ад самага пачатку сваёй адукацыйнай кар’еры. Заўсёды хапае ім новых і арыгінальных тэм ды творчага натхнення.

Трыццаць чатыры работы на тэму пошукаў слядоў гісторыі рэгіёна ў бліжэйшым наваколлі ацэньвала камісія сёлетняга выпуску літаратурнага конкурсу. Публіка ў зале шудзялаўскага дома культуры з хваляваннем слухала канчатковага рашэння паважанага журы.

У катэгорыі класаў І-ІІІ пачатковых школ другую ўзнагароду атрымала Эдыта Санюкевіч з Шудзялава за „Сямейныя аповеды”. Першую ўзнагароду ўзяў Матэвуш Чарэмха з Шудзялава за працу „Мая сям’я — маё гняздо”.

Героямі катэгорыі класаў IV-VI сталі Уршуля Рэдош з шудзялаўскай школы, аўтарка вылучанага сачынення „Некалькі слоў пра майго бацьку” і Юлія Кэндысь з шудзялаўскай школы, якая атрымала трэцяе месца за „Гісторыю маіх прадзедаў”.

На другім месцы апынулася работа „Гісторыя двара і вёскі Слойка” Іаанны Горчак з шудзялаўскай школы. Павел Вішнеўскі з Шудзялава стаў пераможцам у гэтай катэгорыі з тэкстам „З гісторыі маёй сям’і”.

Вылучэнне атрымала таксама калектыўная работа вучняў Пачатковай школы ў вёсцы Мень за запісанне багатай гісторыі калектыву „Мянка”.

Сярод гімназістаў на трэцім месцы апынулася Эліза Кавальчук з Шудзялава за апісанне гісторыі забойства пад Засцянкам. Другое месца заняла Анна Камінская з Крынак за сагу пра печніка.

У катэгорыі звышгімназічных школ вылучэнне атрымала Катажына Логвін, вучаніца Сельскагаспадарчага тэхнікума ў Саколцы за тэкст „Сакольшчына — мая малая айчына”.

Узнагародзілі таксама дарослых. Два раўнапраўныя вылучэнні пайшлі да Уршулі Каспэровіч з Саколя за „Аповед пра бабулю Альбінку” і Славаміра Дваракоўскага з Боцькаў за работу пад загалоўкам „Чаму Боцькі паважаюць святога Яна”. Вылучылі таксама Андрэя Хадацкага з Парчэва за сапраўдны расповед пра складанасці паломніцтва ў Чанстахову ў пасляваеннай Польшчы. Спадар Хадацкі з-за службовых, доктарскіх абавязкаў не змог прыехаць у Шудзялава, але накіраваў пісьмо якое прасіў прачытаць усім прысутным на мерапрыемстве. У пісьме шчыра падзякаваў за зацікаўленне яго гісторыяй і творчасцю, прасіў таксама перадаць сваю грашовую ўзнагароду літаратурна таленавітым дзецям, якія знаходзяцца пад апекай шудзялаўскага асяродка культуры.

Першае месца сярод дарослых атрымала работа „Сорак гадоў у цемнаце” Мікалая Янчука са Ставішчаў за сапраўдны і хвалюючы аповед пра бацьку.

Журы назначыла таксама спецыяльныя ўзнагароды за паслядоўныя апісанні гісторый з Падляшша на аснове ўласных перажыванняў і досведу. Яе атрымала Барбара Вільчэўская з Невадніцы-Касцельнай — аўтарка работы „З дзённіка школьнай бібліятэкаркі”. Такую ж узнагароду атрымалі Марыян Бізюк з Саколкі за „Было гэта пяцьдзесят гадоў таму 1951-1962” і Міраслава Александровіч з Ольштына за „Зберагчы ад забыцця”.

Журы дацаніла таксама запісы ініцыятыў, звязаных з папулярызацыяй гісторыі свайго рэгіёна. Тут узнагародзілі тэксты: „Тое, што пасля нас застанецца — гісторыя магіл і ваенных могільнікаў у гміне Завады” Івоны Вандалоўскай і Барбары Таргонскай з Завад і „Орля і яе жыхары ў ІІ Рэчы Паспалітай ва ўспамінах і дакументах: У пошуках страчанай тоеснасці” школьнікаў з Орлі.

Беластоцкі адзел КРУС прызначыў спецыяльную ўзнагароду Дамініцы Глэмбоцкай з Карыціна за цікавую форму прэзентацыі работы на гаспадарцы на працягу чатырох пор года.

Журы падзякавала таксама ўсім апекунам і настаўнікам дзяцей, якія ўдзельнічалі ў гэтым выпуску конкурсу.

Лаўрэатку другога месца Аню Камінскую з Крынак да ўдзелу заахвоціла мама — настаўніца шудзялаўскай школы. Яна падказала тэму, дапамагала ў пошуках матэрыялаў. Аня апісала лёсы славутага крынскага печніка Семёнкевіча, апошняга майстра гэтай прафесіі. Работу ўпрыгожыла яна калекцыяй фотаздымкаў старых печак з Крынак і наваколля. Сфатаграфавала і апісала таксама пліту сваёй бабулі, на якой выпякаліся найсмачнейшыя ў свеце дранікі.

У час мерапрыемства можна было дакрануцца і паглядзець усе конкурсныя работы.

Вельмі цікавай, хаця неўзнагароджанай, была „Гісторыя лёну” аўтарства Леанарды Сакалоўскай з Шудзялаўскай гміны. З гэтага тэксту можна даведацца, між іншым, што слова „сарочка” сімвалізуе сорак работ ад засеву льнянога семя па вышыўку ўжо гатовага адзення.

Неўзнагароджанай засталася таксама работа Марціна Лянкевіча, першакласніка шудзялаўскай школы. Ён апісаў гісторыю сваёй польска-беларускай сям’і. Вельмі цікава прадставіў ён лёсы сваёй прабабулі — баярыні з Іванава, якая адна з цэлай сям’і пражыла рэвалюцыйную завіруху і раскулачванне.

У конкурсе сваіх сіл прабавалі таксама вучні шудзялаўскага рэгіянальна-беларускага кружка.

Толькі тры з сёлета ўзнагароджаных тэкстаў сталі канвай конкурснай публікацыі „Мясцовыя сямейныя гісторыі”, выдадзенай Гмінным асяродкам анімацыі культуры і рэкрэацыі ў Шудзялаве. Памятныя зборнікі лепшых конкурсных работ выйшлі таксама з нагоды пятага і сёмага выпускаў конкурсу. Самым шырокім па змесце быў зборнік „Нашае гняздо — пяць гадоў запісаў гісторыі рэгіёна”, выдадзены ў 2009 годзе. У мінулым годзе шудзялаўскі асяродак выдаў „Зберажонае ад забыцця” Міраславы Александровіч. Плануецца таксама апрацаванне другога вялікага па змесце зборніка, прымеркаванага да дзесятага, юбілейнага выпуску „Нашага гнязда”.

Апрача знаёмства з сёлетнімі лаўрэатамі літаратурнага конкурсу шудзялаўскую публіку чакала яшчэ сустрэча з літаратуразнаўцам Вальдэмарам Францішкам Смашчам, які ў рамках святкавання года Януша Корчака распавёў пра галоўныя плыні філасофіі гэтага выдатнага пісьменніка і педагога, шчырага абаронцы дзяцей. У дакладзе апынуліся таксама спасылкі на творчасць ксяндза Яна Твардоўскага, які называў сябе вучнем Корчака.

У музычны, вельмі сентыментальны свет эпохі Януша Корчака шудзялаўскую публіку ўвёў струнны квартэт „Прымавера” выпускнікоў беластоцкай і быдгашчкай музычных акадэмій.

Словы вялікай падзякі належацца галоўным арганізатарам мерапрыемства Альжбеце Ярашэвіч — дырэктар Гміннага асяродка анімацыі культуры і рэкрэацыі ў Шудзялаве і Аб’яднанню сяброў Шудзялаўскай гміны. Фінансава арганізатараў падтрымала, між іншым, Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства.

# Тайная вячэра



Мода, засеяная першымі рамантыкамі, жыве ў нашым тутэйшым грамадстве такім жа больш-менш вечным жыццём, як у суседнім замежжы неўміручая вера ў здзяйсненне справядлівасці паводле метадаў вечна жывога Ільіча. А тою рамантычнай модай было захапленне простанароддзем і ягоным фальклорам. Вось і зараз фальклор модна ўзнімаецца ў ранг важных дасягненняў мясцовага насельніцтва, але цяперашні ажыятаж вакол яго выводзіцца з адыходу сучаснага грамадства ад крыніц, якія той фальклор спарадзілі, з тых крыніц высыхання, з патрэбы захавання на вечную памяць яго ўжо рэштак, як збіранне пасляхлебных крышынак на галодным стале; раней жа, у сціслa рамантычную эпоху, фальклор кіпеў такім жыццём, што пераліваўся за свае простанародныя берагі, у адасобленыя яму панскія салоны...

Дзеля захоўвання той народнай спадчыны ладзяцца на нашай Усходняй Сцяне ўсялякія фальклорныя мерапрыемствы, называныя па-мясцоваму святамі або па-замежнаму фестывалямі або фэстамі. Вось у перыяд астранамічнай вясны ў абсягу нашага амаль найгістарычнейшага горада ладзіцца фестываль Вадаходы. У ходзе яго фальклорны наш народ рэальна карагодзіць па вуліцах нашых вёсак, а намінальна ходзіць па паверхні вады не патанаючы ў ёй — як па Галілейскім моры — і да таго ж стрымоўваючы ад забыцця сваю язычніцкую спадчыну: спяваючы даўнія спевы ды танцуючы розныя паланезы, бульбанезы ці іншанезы. Вадаходы ладзяцца ўжо шмат гадоў і, так як вада, разліваюцца штораз шырэй, штораз далей ад свайго пачатковага цэнтра, ад сваёй крыніцы. Прымаюць у іх удзел народы не толькі з нашага дамежжа, але і з розных ящчэ замежжаў.

Сёлета Вадаходы завіталі і ў далекаваты Задубінскі прыход, а іх там завяршэннем мела быць супольная вячэра ў Пацiхаволлі. Галоўны арганізатар Вадаходаў, спадар Палесь, запрасіў на тое завяршэнне таго язычніцкага фестывалю айца Яса, свайго аднадумніка па пытаннях захавання народнай спадчыны, а больш афіцыйна — настаяцеля Прышчытоўскага прыхода, даволі вонкавага ў тэрытарыяльных адносінах да Задубінскага. Айцец Яс запрашэнне прыняў з паказным вонкавым задавальненнем. І з глыбокім унутраным, што ўсё гэтае язычніцкае гульбішча зможа завяршыць нейкім малебнам паводле рытуалаў актуальна пануючай тут рэлігіі. І адпаведнай паважнаму настрою трапязой, дзеля якой пайшла нарыхтоўка адпаведнай спажывы, у тым ліку і сантаграляў з неабходным духоўным адсоткам. Адно толькі здарыўся пры ўсім гэтым недагляд, што пра гэтае завяршэнне не быў афіцыйна павядомлены кананічны духоўны апякун Задубінскага прыхода айцец Ас...

А ён, айцец Ас, не спаў. Ці то ад нейкага пацiхавольскага стукача, ці то ад нейкай звышруплівай тамашняй багамолкі, заклапочанай магчымай некананічнасцю фінальнага мерапрыемства ў грамадскім памяшканні вёскі, ці то ў выніку нейкай правідзежы, даведаўся ён пра рыхтаваную імпрэзу і пра таго, хто меў там быць альфай і амегай застолля; значыць пра засакрэчаную прысутнасць айца Яса на ягонай кананічнай тэрыторыі. Гэта ж пахла празелітызмам, і то з боку так адлеглага прыхода.

Трэба тут яшчэ сказаць, што абодвух айцоў яднала старое знаёмства. Менавіта айцец Ас быў раней настаяцелем Прышчытоўскага прыхода, аднак у сілу кананічных прадпісанняў прывандраваў ён адтуль у задубінскую царкву дзеля апостальскага вяшчання ў ёй сваіх добрых навін. А ў Прышчытоўскі прыход прыйшоў на ягонае месца вядомы нам ужо айцец Яс, каб і гэтае месца не аставалася без пастырскага нагляду. Толькі ў час гэтай перастаноўкі здарылася ў Прышчытоўскім прыходзе нейкае таемнае здарэнне, нейкі патоп, нешта накшталт цуду. Менавіта ў час таго таемнага патопу размножыліся ў прышчытоўскай царкве акварэлі, і то да такой ступені, што дакладна не ўдалося іх пералічыць; асабліва не спраўляліся з гэтым прыхадскія мужыкі. Да таго ж айцы Ас і Яс трымалі маўчанне, быццам тайну споведзі, бо ж цуду не тлумачыцца простанароддзю. Тая тайна стала нераздзельным вузлом, які спалучыў абодвух айцоў асаблівай узаемнай дбайнасцю...

Вось і цяпер, у пачуцці пастырскага абавязку прадухілення неасцярожнаму айцу Ясу спакусы спрабавання грэшных фабрыкатаў спазнання дабра і зла, выбраўся айцец Ас у Пацiхаволле, у сваю кананічную вотчыну. Айцец Яс, якому згаданая ўзаемная дбайнасць з айцом Асам стала шостым пачуццём, своеасаблівым джыпіэсам, які дакладна пазіцыянаваў тапаграфічныя каардынаты брата па пастырскай місіі, маланкава ўсвядоміў блізкую прысутнасць свайго зямнога анёла-ахоўніка і шпарка выбег па духоўнае павучэнне больш спрактыкаванага прапаведніка. А ён, айцец Ас, паморшчыўшы лоб заклапочанасцю пра айца Яса, які, заняўшыся грэшнымі спакусамі, разбуджанымі язычніцкімі карагодамі і выніковым застоллем, забыўся запрасіць на трапязу кананічнага апекуна не толькі Пацiхаволля, але і ўсяго Задубінскага прыхода, павучальна прамовіў:

— Ці ты, ойча Ясе, усведамляеш, у якое ты ўлазіш адступніцтва ад правільнай веры?

— Будзь ласкавы, ойча Асе, мне грэшнаму, — прашаптаў збялелымі вуснамі айцец Яс.

— Ты ж уваходзіш на маю кананічную тэрыторыю без маёй згоды, гэта паперша, — прадаўжаў айцец Ас. — Ты ведай, будзь свядомы, што я тут кожнае дрэва, кожны кусцік, кожны каменьчык пазначыў сваёй пастырскай маркай, акрапіў сваім крапілам; гэта выключна мая пастырская вотчына і толькі ў мяне кананічнае права даваць дазвол на спажыванне Божых дароў, на атэстацыю іх нашай, так сказаць, кашэрнасці. Не думай, што ў Пацiхаволлі можаш паціху і па сваёй волі сваволнічаць! Па-другое: збіраешся самавольна духоўна адобрыць рыхтаваную тут язычніцкую распусту. Ці ты, ойча Ясе, усведамляеш, што гэтыя вясковыя цёмныя бабы і мужыкі, калі станцаваныя пабачаць зрокам і пачуюць нюхам дары блаславёных мною сталоў, дык змятуць з іх усе напоі, як у Кане. Там дык хаця Ешуа-га-Ноцры наладзіў адмысловы аварыйны катэрынг, а тут ты сам што парадзіш? Ці ж ты знаеш мясцовых бабак і дзядкоў, якія трымаюць лякарствы для сасмаглага народу? А я ж тут ведаю нават кожны кусцік, пад які прадбачлівы фольк запашвае сваё народнае рукадзелле...

— Мая віна, мая віна, мая вельмі вялікая віна, — шапталі спалатнелыя вусны айца Яса.

— І па-трэцяе, найважнейшае, пра што ты і сам павінен добра ведаць: я маю службовы абавязак рапартаваць пра ўсе здзейсненыя ў Задубінскім прыходзе праграшэнні самому маланкаўладнаму Варсу. Не мушу табе падрабязна тлумачыць, да чаго такая вядомасць можа прывесці, але заўважу толькі ў агульных штрыхах, прыпомню табе, што Варс з'яўляецца выдатным мастаком, якому кожная такая вестачка стварае выдатны стымул для ягонай віртуознай творчасці. Хіба толькі ўпарты задрыпанец не ведае, што Варс — спрактыкаваны мастак грахоўнага смалапісу, своеасаблівай катэгорыі кананічнай партрэтнай графікі, якая руплівa збіраецца ў адмысловых фондах. Ці ты ўяўляеш сабе той момант, калі твая душа стане перад тронам першага папы, а ён, першы папа, выцягне са згаданых фондаў твой партрэт? Можа так здарыцца, што сам сябе не пазнаеш. Трэба будзе забыцца пра спяванне ў анёльскіх харах, толькі ў чысцілішча трэба будзе адпраўляцца для рэтушу сваёй вывы; там адпаведных чарніл мае быць удосталь.

— Ойча-ойча, будзь неяк ласкавы мне грэшнаму, — з іскрынкай надзеі ў вачах шаптаў далей айцец Яс, пачуўшы пра чысцілішча, якое ўсё ж такі дае нейкі шанс.

— Каешся? — строга спытаў айцец Ас.

— Каюся, — з надзеяй у голасе бадзёра шапнуў айцец Яс.

— Тады загадваю табе пакуту: за тое, што ты задумаў спажываць з забароненага стала спазнання дабра і зла, але пакаяўся, памілую цябе і не загадаю колькі разоў бегаць вакол Пацiхаволля, бо яшчэ ў замежжа забяжыш, але выганяю цябе з майго раю, з майго цёпленькага Задубіння. Сам не пасмакую грэшнага настолля, але і табе не дазволю. І неадкладна — туды!

Айцец Ас узняў руку ў напрамку супрацьлеглым да замежжа. А айцец Яс, хутка ўкленчыўшы і хутка ўстаўшы, паціхеньку ўсунуўся ў сваю машыну і нічога нікому з самадзейнікаў не сказаўшы, ціха і маланкава пакалясіў усваясі.

А што на гэта дамежныя і замежныя ўдзельнікі Вадаходаў? Яны толькі пасля нейкага часу спахапіліся, што айцец Яс непрысутны. І ўсведамілі сабе і сваю ўласную грахоўнасць. І рашылі адпакутаваць яе строгім постам пасярэдзіне акурат таго адрэзка часу, што аддзяляе Вялікдзень ад Пятроўкі. І не былі яны на нарыхтаваным ім застоллі, і не елі яны, і не пілі, і па барадах ім не цякло, і ў ратах настольнае багацце не было. Толькі сліна ім неяк так там адмыслова непакоілася.

І я там не быў, рукадзельных напояў не піў, па барадзе не цякло, і ў роце не было. А пра падзею з верагодных вуснаў пачуў і дэталі творча дапрацаваў. Уласныя назвы, так мясцовасцей, мерапрыемстваў, як і персанажаў зменены, але з захаваннем алгарытма іх вяртання да вытокаў. Толькі Варс — асоба цалкам фіктыўная.

**ай-Вай**



# Салонная кампанія

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

**Салон ТОК — гэта таварыска-сельска-горада-інтэлектуальна-культурна-мастацкі праект гайнаўскага Таварыства аховы краявіду, які накіраваны да ўсіх неабыякавых да таго, што дзеецца ў прыродным, архітэктурным і культурным ландшафце. Справа непасрэдна засяроджваецца на развіцці так рэдкага сёння інтэлекту і добрага смаку, а заадно і на барацьбе з усепрысутнай ксенафобіяй, прасцяцтвам і папулізмам.**

Праект працягваецца ўжо другі год. Яго галоўным каардынатарам з'яўляецца Януш Корбель, архітэктар, вядомы абаронца прыроды. Сказаў ён „Ніве”:

— Пачаткова члены нашага аб'яднання сустракаліся ў Гайнаўцы. Вяліся размовы больш сацыяльнага характару, аб усім і нічым. Прыйшоў час радыкальных змен формулы сустрэч. Неабходна было даць ім больш удасканаленай формы. Вось і паявілася думка пра адраджэнне ідэі сапраўднага салона — асяродка вышэйшай культуры і мастацтва ў шырокім, мультыканвенцыйным выданні.

Наш першы салон завандраваў у залу старадаўняга царскага вакзала ў Белавежы. Там, між іншым, яго цяперашні ўладальнік распавёў нам гісторыю рэканструкцыі вакзала — пераможцы года ў конкурсе на помнік драўлянай архітэктуры. Другі салон адбыўся ў Тыкоцінскім замку, дзе мы пазнаёміліся з гісторыяй і незвычайнай сучаснасцю гэтага месца. Героямі адной з нашых сустрэч былі таксама беластоцкія навучэнцы беларускай мовы, якія сцэнічнай пастаноўкай „Ой даўно, даўно” распавялі пра лёсы сваіх падляшскіх продкаў. Адзін з салонаў прайшоў у Нараўцы ў памяшканні выратаванага, старога гаспадарчага будынка. Нараўчанскае спатканне было прысвечана прыродазнаўчым фільмам і дыскусіі пра спосабы трактоўкі краявіду і архітэктуры. Падобнага тыпу размовы суправаджаюць амаль кожны наш сход. Часта таксама гучаць тут песні з-пад Крынак у выкананні дуэта „Зараніца”.

Травеньскі, пяты па ліку, салон ТОК меў асаблівы характар па прычыне тэматыкі і месца, у якім ён праходзіў.

— Яшчэ пад канец 2011 года, на крынскім бенефісе Сакрата Яновіча, — сказаў Януш Корбель, — падышоў да мяне Віктар Волкаў і паведаміў: „Урэшце я знайшоў твой дуб”. Шукаў ён дрэва, пра якое я яму распавядаў. Я штосьці ўзгадаў пра салон. Віктар запрапанаваў: „Чарговы зробім у мяне, у маёй супрасльскай галерэі”. Мы хацелі правесці гэты салон менавіта там, у Супраслі. На жаль, Віктар не дачакаўся,


Сябры Таварыства аховы краявіду


Бэата Гыжы-Чалпінская прэзентавала свой фільм у сапраўды салоннай вопратцы

пакінуў нас зусім нечакана. Беластоцкая рэжысёрка Бэата Гыжы-Чалпінская запрапанавала ўвекавечыць Віктара прэзентацыяй свайго фільма „Чатыры поры года Віктара Волкава”. Менавіта яна задумала зрабіць гэта ў вельмі цікавым беластоцкім Музеі скульптуры Альфонса Карнага. Мы вельмі абрадаваліся і прысвяцілі гэты салон Віктару. Ягоны дух быў з намі, хаця гэта мы павінны быць у гасцях у яго. Пры нагодзе мы пазнаёміліся з гісторыяй гэтага месца, пра што расказаў нам кіраўнік музея Рышард Сацюк.

Дакумент Бэаты Гыжы-Чалпінскай паказаў Волкава перш за ўсё як майстра фатаграфіі, які, нягледзячы на ўмовы і пануючыя тэндэнцыі, да канца трымаўся свайго ўласнага творчага накірунку. Фільм выклікаў у прысутных шмат эмоцый. Некаторыя не маглі стрымаць слёз, не паспеўшы залячыць свежых ран па страце дарагога чалавека. Сапраўднасці і натуральнасці стужкі дадалі майстэрскія здымкі кінааператара Рамана Васілюка.

Салон завершыла цікавая, момантамі вельмі персанальная сустрэча з рэжысёркай прэзентаванага дакумента.




## http://euroradio.fm

Колькасць замежных радыёстанцый, якія маюць акрэдытацыю ад Міністэрства замежных спраў Беларусі на працу ў краіне, зусім неістотная. Так, ужо колькі гадоў не можа атрымаць яе добравядомае на Беласточчыне Радыё Рацыя. Адной з тых радыёстанцый, што законна працуе ў Беларусі і пры гэтым незалежна асвятляе падзеі з'яўляецца Еўрарадыё. Праўда, пачуць яго можна толькі па заходняй частцы краіны.

Заснавальнікі і ўладальнікі Еўрарадыё, сайт якога знаходзіцца ў інтэрнэце па адрасе **http://euroradio.fm**, называюць яго маладзёжным мультымедыйным праектам, арыентаваным на людзей 15-35 гадоў з любым даходам. Днём яго нараджэння лічыцца 6 лютага 2006 года.

„Штодзённа нашыя навіны, музыку і праграмы слухаюць і чытаюць болей за 300 тысяч чалавек, нашая пастаянная аўдыторыя. Цягам пяці год мы падтрымалі болей за 1000 культурных акцый і запрасілі ў эфір сотні экспертаў. Нашыя карэспандэнты — лаўрэаты міжнародных журналіцкіх прэміяў і конкурсаў”, — так прэзентуюць сябе і сваю працу „еўрарадыйшчыкі” на старонцы „Пра Еўрарадыё”. Дарэчы, там жа падаюцца частоты і мясцовасці, дзе можна ў Беларусі пачуць гукі данага радыё — гэта Брэст, Ліда, Пінск, Глыбокае, Паставы, Відзы і Міёры з наваколлямі.

Сайт радыёстанцыі даволі стракаты як па выяве, так і па змесце. На ім адразу можна ўбачыць усе тэмы, якія кранае ў сваіх матэрыялах рэдакцыя. Пры гэтым галоўныя месцяцца ўверсе выяўлення. На сайце прысутнічае дзяленне на рубрыкі, але яно падаецца вельмі ўмоўным, бо будова выяўлення значна адрозніваецца ад звыклых. Тэматычныя раздзелы раскіданыя па ўсім сайце і напачатку не зусім разумееш гэты парадак. І каб яго неяк уцяміць, трэба „пракруціць” цэлае выяўленне ажно данізу, дзе падаюцца выйсці на чатыры галоўныя рубрыкі сайта — „Інфатэка”, „Фанатэка”, „Праграмы” і „Пра Еўрарадыё”, і іх падрубрыкі.

Пры гэтым у раздзеле „Інфатэка” можна знайсці тыя рубрыкі, якія не пазначаны ў вышэйзгаданым пераліку, але гавораць самі за сябе — „Euro-2012”, „Нязручныя пытанні”, „Тэракт у Мінску”, „Забароненыя музыкі”, „Лукашэнка”, „Палата дэпутатаў”, „Палітвязні”, „Ксюша Дзягелька „Я из деревни””.

Арыгінальнасцю будовы выяўлення вылучаецца таксама і тое, што стужка навін там месціцца не з левага боку, як звычайна, а з правага. Таму пры адкрыцці „Інфатэкі” ў вочы кідаюцца „сур'ёзныя старонкі” — „Рэпартаж” і „Меркаванні”.

Аматары музыкі знойдуць для сябе шмат цікавага ў „Фанатэцы”. Тут ідзе не толькі пра музычныя навіны, але таксама падаюцца інтэрв'ю з музыкамі, фотарэпартажы з канцэртаў, абвесткі аб падзеях музычнага жыцця і нават умовы разнастайных конкурсаў, перамога ў якіх можа даць магчымасць бясплатнага наведвання таго ці іншага канцэрта.

Існаванне рубрыкі „Праграмы” не зусім зразумелае. Здаецца, усе тыя тэмы, якія ўздымаюцца ў іншых рубрыках сайта, нічым не адрозніваюцца ад пададзеных у „Праграмах”. Так, падрубрыка „Форум Беларусь”, дзе аб сваім бачанні на беларускую краіну распавядаюць разнастайныя эксперты, магла б спакойна размясціцца ў „Інфатэцы”. А „ЕўраZOOM” (Аналіз беларускіх і сусветных падзей + шоў-біз, афіша, навіны спорту) — быць падзеленым паміж „Інфатэкай” і „Фанатэкай”.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## БЕЛАРУСІ Скарбы

### Дзятлаўская рэзідэнцыя

Дзятлаўская зямля — некалі тэрыторыя рассялення плямён яцвягаў, адно з улюбёных месцаў археолагаў. Колькасць курганоў, гарадзішчаў, могільнікаў, старажытных стаянак і селішчаў на адзінку плошчы тут надзвычай вялікая. Сам раённы цэнтр Дзятлава ўзнік на скрыжаванні шляхоў, што вялі да старажытных гарадоў — Слоніма, Навагрудка, Ліды. Версій паходжання гэтай назвы, якая мела больш дзесятка розных варыянтаў, шмат. Пэўна можна толькі сцвярджаць, што каларытная птушка дзяцел не мае да назвы паселішча ніякага дачынення. Асноўная гіпотэза паходжання тапоніма — назва перайшла ад возера Зьято. Як згадвае Іпацьеўскі летапіс, каля яго адбылася сутычка паміж літоўскім і галіцкім войскамі.

Вялікі князь літоўскі Аляксандр у 1498 годзе падарыў Дзятлава гетману Канстанціну Астрожскаму. Менавіта славуты ў нашым мінулым ваяр і заснаваў тут сваю рэзідэнцыю. Астрожскі заклаў тут першую праваслаўную царкву, яго род валодаў Дзятлавам больш ста гадоў, пасля чаго яно перайшло да Сапегаў, а пазней да Радзівілаў.

Асноўнай архітэктурнай візітоўкай горада з'яўляецца касцёл Ушэсця Дзевы Марыі. Пабудаваны ён быў у сярэдзіне XVII стагоддзя паводле фундацыі Льва Сапегі на месцы драўлянага храма. Пасля пажару 1743 года храм перабудаваны паводле праекта Аляксандра Асікевіча. На гэты раз вялікае ахвяраванне склаў Мікалай Фаўстын Радзівіл, адзін з выдатных прадстаўнікоў славутага магнацкага роду. Ён нарадзіўся менавіта ў Дзятлаве, вызначыўся як вайсковы і дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага. Гэты Радзівіл спрыяў развіццю мястэчка, ствараючы будучыню і для сваіх дзяцей, якіх у яго было ажно 14. Бальшыня з сыноў таксама пакінулі прыкметны след у гісторыі.

Калі ў наш край прыйшлі расейцы, ім не давала спакою велічнасць каталіцкага касцёла. Быў нават складзены грандыёзны праект пабудовы праваслаўнага сабора, але далей чарцяжоў справа не пайшла. Больш ста гадоў духоўныя патрэбы праваслаўных вернікаў задавальняе сціплая Спаса-Праабражэнская царква. Але ўжо ў нашыя дні побач паўстаў прыгожы вялікі сабор з серабрыстымі купаламі. Гадоў тры таму пашчасціла мне быць на ўрачыстым усталяванні на гэтых купалах пазалочаных крыжоў. Храм пакуль не дзеіць, ідуць рамонтныя работы, але неўзабаве ў ім пачнуцца набажэнствы.

Палац Радзівілаў у Дзятлаве сёння на рэканструкцыі. Сюды пасля адбудовы мусіць перабрацца мясцовы краязнаўчы музей (яго асноўным стваральнікам быў Міхаіл Петрыкевіч), частку будынка напэўна аддадуць пад гатэль. З іншых адметных помнікаў у горадзе можна прыгадаць бюст славутаму сыну Дзятлаўскай зямлі Ігнату Дварчаніну. Яго ўсталявалі ў цэнтры непадалёк касцёла ў 1989 годзе, калі ўжо адкрылася шмат праўды пра злачынствы савецка-сталінскай сістэмы.

Пралягалі праз Дзятлава шляхі і славутых філаматаў — Ігната Дамейкі і Адама Міцкевіча. Гэтаму зусім простае тлумачэнне — у ваколіцах Дзятлава (кіламетр-паўтара ад горада) да сёння захаваўся будынак сядзібы ў Жыбартоўшчыне. Тут прайшлі многія дзіцячыя і маладыя дні будучага нацыянальнага героя Чылі, а пазней у гэтым фальварку жыў Лявон Дамейка, яго пляменнік, удзельнік паўстання 1863 года.

У апошнія гады ў Дзятлаве адбываецца рэканструкцыя гістарычнага цэнтра. Напэўна яна мае свае плюсы і мінусы. Колішняй рэзідэнцыі знакамітых магнацкіх родаў яшчэ належыць адрадзіць, знайсці, раскрыць свае адметныя рысы, якія прывабяць турыстаў і падарожнікаў.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Сват са Старога Двара

Па Гасподняй волі трапіўся мне сват са Старога Двара — гэта мясцовасць каля Семяноўскага вадасховішча. Дагэтуль неаднойчы думаў, што ўжо няма добрых, адданых людзей на гэтай божай, пакрыўджанай зямлі. Што грэшную зямлю людзі самі сабе падпарадкавалі і так жывуць як ім выгадней, адвярнулі яе на свой капыл. Як жа я памыляўся! Пакуль будзе хаця некалькіх праведнікаў, зямля будзе існаваць і добрыя людзі будуць на ёй жыць. І будуць множыцца. Так было, так ёсць, і так будзе. Гэта не ад нас залежыць, за гэтым сочыць наш Усявышні. Ён цяпло і дождж пасылае, расою зямлю арашае, корміць і поіць штодзённа нас. І слава за гэта Яму!

Пара да тэмы вяртацца. Сват мой завецца Мікалай Пучынскі. Як я ўжо згадаў напачатку, са свечкай шукаць такіх трэба. А, можа, у ваколіцах тых людзі такія? А можа таму, што ён выйшаў з мнагадзетнай сям’і? У ягонай маці было дзевяцёра сыноў, адзін памёр, пражыўшы толькі годзік. А ўсіх васьмёра апошніх маці адхавала. Калі дараслі, адпаведнай навукай забяспечыла. Як магла так іх навучыла і ў свет між людзей выпусціла. І аж да самой канчыны пра дзетак сваіх турбавалася. А мацярынскае сэрца вытрывае ўсё: недаспаныя ночы, слёзы, мацярынскі боль, насмешкі і паклёпы людзей. Маці ўсё перанясе дзеля шчасця і дабра дзяцей.

Так было аж да ейнай канчыны. А вочы закрыла яна пражыўшы 95 гадоў. А дзеткі аж да самой смерці пра яе памяталі, кожны год у дзень нараджэння да яе прыязджалі каб хаця ёй добрае слова сказаць ды маленькі падарунак падаць. І вось калі такая дружына ў хаце збіралася, маці гаварыла: „Так мне здаецца, быццам маладосць да мяне вяртаецца”. Аднак не вярнулася і на 95-м годзе вочы яна свае закрыла. І мне давялося на ейных паховінах быць.

Фота Кацярыны МАРОЗ



Яшчэ пры жыцці яна сынам сваім загадала, каб на ейнай труне распасцерці капу, каб каменне і зямля па ёй не грукаталі. Сыны згодна выканалі яе пахавальны запавет. Так завяршыла сваё жыццё жанчына, якая нарадзіла на свет васьмярых сыноў; і слава ёй за гэта.

Вось з такой сям’і выйшаў і мой сват. Але не буду яго расхвальваць, бо ведаю адно: цягам усяго жыцця ён працаваў, не ляніўся. Доўгі час жыў ён у Гайнаўцы, а калі ажаніўся — у Беласток трапіў і з гэтым горадам звязаў свой лёс, прыжыўся. Ягоная жонка Людміла паходзіць з Залешан, што каля Кляшчэль. Сталі яны сваё сямейнае гняздо ў Беластоку віць. Усё набывалі: ад міскі да лыжкі. Цяжка было, пакуль на ногі сталі, памаленьку, аднак, усё прыдбалі. З часам павялічылася іхняя сям’я — вось так і нявестка мая Кацярына на свет паявілася. І сын яшчэ ў іх — Пятрусь, жанаты ён, жыве асобна. Людміла з Мікалаем самі ў хаце асталіся. Сын мой, Яраслаў, ажаніўся з Кацярынай — новая сям’я стала жыць у Беластоку. У іх маленькая Марыя Магдаліна — наша супольная радасць. На старыя гады нам больш нічога не трэба, толькі сачыць за сваёй унусяй.

Аднак старэйшых людзей на бацькоўскі парог цягне. І вось сват мой будуе домік у Старым Двары — там, дзе маці вучыла яго вымяўляць першыя словы. Прыгожы домік стаіць пасярод лесу, да якога час ад часу сват ездзіць каб там спакойна пажыць. Шмат там вырасла такіх домікаў — людзі ахвотна едуць у свой родны кут, каб спеву птушак паслухаць, лесам падыхаць, рыбку ў Семяноўскім вадасховішчы злавіць. Каб пажыць хаця некалькі дзён на чыстай прыродзе, якой нам ужо так мала асталося. Бо з часам, хто ведае, што там астанецца. Бо чалавек гэта такое стварэнне, якога ніхто не разгадае, што ён на наступны дзень задумае. А нам асталося Усявышняга пра здароўе прасіць і дзякаваць за тое, што дазваляе пажыць.

Грыша МАРОЗ

# За што плацім?

Уладзімір СІДАРУК

Гмінны водаправод у Чаромсе быў здадзены ў карыстанне ў 1991 годзе. Памяснае асвячэнне завяршылася элегантным банкетам „на ставах” каля Вулькі-Тэрахоўскай. Пасля жыхары каментавалі: „З водаправода не вада, а віно павінна цячы!”.

Але ўсё „прайшло з зімой халоднай”. Людзі пагаварылі... і перасталі. Войт славіўся водаправодам, а людзям была палёгка. Не трэба было цягаць вады з калодзежа. Гмінны інкасатар правяраў лічыльнікі штоквартальна. Паводле яго запісу карыстальнік разлічваўся ў камунальнай гаспадарцы. Аплаты ўносілі за выкарыстаную ваду без дадатковай нагрузкі. Пасля ўвялі „кніжачкі аплаты”. І тут не было лішняй аплаты. Перамены наступілі ў 2010 годзе, калі казначэйская ўстанова дагледзелася, што гміна не выстаўляе рахункаў і за паслугі не плаціць належнага ПДВ. Адмянілі тады „кніжачкі аплаты” і пачалі дарычаць рахункі. За тры чвэрці не было нагрузкі, а ў чацвёртым квартале 2011 г. да коштаў „за расходаваную ваду” дапісана была „сталая аплата” — 4,20 зл. У рахунку з сакавіка гэтага года „сталая аплата” павысілася на 7,26 зл. (з ПДВ — 7,84 зл.), у траўні панізілася на 6,44 зл. (з ПДВ). Людзі па-рознаму каментавалі захады самаўрада. Паспрабаваў я высветліць справу ў гміне. Намеснік войта не змог адказаць на пытанне што ўплывае на велічыню сталай аплаты.

— Найлепш растлумачыць гэта скарбнік, — заявіў Ірыней Леанчук.

Падаўся я затым да скарбніка. Мая субяседніца растлумачыла, што „сталая аплата” была ўведзена рашэннем Рады гміны ў мінулым годзе. Каб не павышаць ставак платы за выкарыстаную ваду, рашылі ўвесці сталую аплату.

— На тэрыторыі гміны пражываюць уладальнікі дамоў, якія прыязджаюць сюды адно летам, — тлумачыла скарбнік гміны Міраслава Кандрацкая-Найбук. — Вадою яны зімой не карыстаюцца. А даглядаць водаправодную сетку трэба сістэматычна, як летам, так і зімою. Зрэшты, — дадала, — нічога заганнага ў гэтым не бачу. Гляньце колькі сталых аплат плацім пры рахунках за электраэнергію, — і пачала дэталёва пералічваць.

Не стаў я больш спрачацца, бо і так зразумеў, што гэта будзе адно вада на млын. Падзякаваў я затым чыноўніцы за размову і падаўся дамоў ні з чым.

**PS.** А так, на мужыцкі розум: стаўку за выкарыстаную ваду гміна павышала на некалькі грошай за кубаметр раз на год-два, а сталую аплату трэба плаціць чатыры-пяць разоў у год па некалькі злотаў. І якая тут выручка грамадзяніну? Сам адно Усявышні і пан войт у Чаромсе ведаюць!

# Адгаданка

1. прылада для пісання атрамантам, 2. лёс, 3. тоўстая дубовая палка, 4. ціхаакіянская сардзіна, 5. апагей, 6. лясная жывёліна з галінастымі рагамі, 7. кароткае верхняе жаночае адзенне (*jaquette*), 8. народ, 9. частка тэлевізара для гледача, 10. расце ў сырых мясцінах, на дрэвах або камянях, 11. між Літвой і Эстоніяй, 12. бітва ў вельмі множным ліку, 13. насякомае з джалам, 14. выгляд, перспектыва, тып, 15. сімвал фашызму.

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | |
| | | 1 | | | | 2 | | | | 3 | | | |
| | | | | 4 | | 5 | 6 | | | | 7 | | |
| | 8 | | | 9 | | | | | 10 | | | | |
| | 11 | | | | 12 | | | | 13 | 14 | | | 15 |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — фразу Аляксандра Лукашэнкі. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 21 нумара

Аер, азот, біс, губа, езуіт, кола, ліпа, муха, Сейм, цесць.

Рашэнне: **Хто есць церaз сілу, той зубамі капае сабе магілу**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Міхалу Байко** з Беластока.


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.


# 24.06 — 30.06

**(22.03. — 20.04.)** 24-28.06. будзеш творчы, незалежны і смелы, урэшце зменіш тое, што табе мяшала. У тваім жыцці пачнуцца перамены. Пачуцці, даўно табою ўжо пахаваныя, адродзяцца. На першы план выйдуць асабістыя справы. Могуць выявіцца і сакрэтныя справы. З аўторка пачнуцца новыя перспектывы ў тваім прафесійным жыцці. Серада добрая для пакупкі мабільніка ці камп’ютара.

**(21.04. — 21.05.)** Да 27.06. перабоі ў настроі. Не напінай суставаў, задбай аб спакой, зрабі парадак. Вялікая магчымасць сур’ёзных памылак пад уплывам эмоцый і пачуццяў, тваіх і іншых. Не ідзі на павадку ў хвілінных жарсцяў і жаданняў. У панядзелак асабліва дбай аб сваё здароўе. У сераду не займайся чужымі рэчамі. У пятніцу — арыгінальныя мэты, ідэі, задумы.

**(22.05. — 22.06.)** Хтосьці ўрэшце гляне на цябе ласкавым вокам. У панядзелак пачуцці будуць браць верх над розумам, што можа стаць прычынай промахаў. У сераду і чацвер магчымыя сустрэчы з уплывовымі людзьмі. У пятніцу не купайся ў вадаёмах (будзь асцярожны нават у сваёй ванне і пад душам!).

**(23.06. — 23.07.)** У тваім жыцці пачынаецца пад’ём. Афармляй важныя справы (ніхто не адмовіць табе крэдыту, пазыкі ці датацыі). Хопіць табе фантазіі і адвагі, спрыту і моцнай волі. Ды хтосьці пазайздросціць табе поспехаў і схоча табе пашкодзіць.

**(24.07. — 23.08.)** Чакаюць цябе толькі поспехі, немалыя. Твае задумы будуць падтрыманы; урэшце пачне цаніць тваю кампетэнтнасць твой найбольшы крытыкан. Прыхільнасць супрацоўнікаў і кіраўніцтва. Ідзі таксама да лекара, асабліва да дантыста. Ды 27-30.06. будзь вельмі асцярожным — хтосьці схоча цябе выкарыстаць або наўмысна ўвесці ў зман.

**(24.08. — 23.09.)** Зоркі пашыраць твае гарызонты; падумай аб абучэннях, курсах, штудзіраванні або запланруй далёкае падарожжа. Ды ў гэты тыдзень можаш страціць упустую або згубіць немалую суму грошай. Адмоўся ад сумніўных здзелак, адкладзі большыя пакупкі.

**(24.09. — 23.10.)** Рэалізуй свае старыя планы. Цяпер вырашаюцца пытанні тваёй кар’еры (праяві ініцыятыву!). У панядзелак лепш не наведвай цырульніка. Серада асабліва спрыяльная для творчых людзей. У чацвер будзь уважлівым для свайго здароўя.

**(24.10. — 22.11.)** Можаш здабыць пасаду сваіх мараў. Пачуеш таксама шмат абяцанняў (не ўсе будуць верагоднымі). Станеш перад цяжкім выбарам; каб дабіцца мэты, трэба будзе ад чагосьці адмовіцца. Прыслухайся да парад сямейнікаў і калег; калі цяпер станеш на іхні бак, можаш быць у выйгрышы. У чацвер лепш не частуйся рыбай.

**(23.11. — 22.12.)** Не ўцячэ ад тваёй увагі ні адна дэталь. Да 27.06. магчымае замяшанне; не дай сябе намовіць на ніякі інтарэс ці невядомую інвестыцыю, трымайся здалёк і ад азарту. Тыдзень добры для казання і рамантычных прыгод.

**(23.12. — 20.01.)** Калі былі нейкія непаразуменні ў пары, прападуць! Твой настрой не будзе сур’ёзны, што можа раздражняць людзей без пачуцця гумару. Могуць дастаць цябе плёткі. У сераду можаш сустрэцца з уплывовымі людзьмі і знайсці сярод іх сабе падтрымку. У пятніцу паводзь сябе вельмі карэктна.

**(21.01. — 19.02.)** Да 26.06. можаш хораша пахудзець. Будзеш адважны, можаш вырашыць аб чымсьці, што накіруе тваё жыццё ў лепшы бок. Цяпер будзеш вельмі патрабавальны; не даводзь дома да нервовай атмасферы.

**(20.02. — 21.03.)** Прачнецца твая амбітнасць, выкажашся ініцыятывай. Могуць цябе адправіць у камандзіроўку, на важныя перамовы, дзе спатрэбяцца твае тактоўнасць, дыпламатычнасць. Прыдадуцца твае веды і веданне моў. Можаш разгледзецца за дадатковым занятакам. Да 26.06. будзеш асабліва прыкметным. Ды хтосьці, каму ты давяраў, можа цябе падвесці.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

У мінулым на землях сённяшняй Беласточчыны былі вядомыя крыніцы з аздараўляльнай вадой. Да іх прыходзілі і з'язджаліся людзі, каб, напіўшыся там вады, атрымаць аздараўленне ад хваробы. Адной з самых прызнаных праваслаўнымі вернікамі была крыніца з цудадзейнай вадой ва ўрочышчы, якое зараз называюць Крыначкай. І так засталося да сённяшняга дня.



Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Нашыя крынічкі Крыначкі

У гэтым годзе на трэці дзень Святой Тройцы, 5 чэрвеня, было пахмурна, пасля пачаў ісці невялікі дожджык. Аднак горшае надвор'е не спалохала паломнікаў. Другую літургію ўзначаліў ардынарый Войска Польскага, епіскап сямятыцкі Георгій у саслужэнні шматлікіх святароў (першая служылася ночу, пасля поўначы). У пропаведзі ўладыка вучыў як правільна жыць, гаварыў пра святое месца, распаложанае ў Белавежскай пушчы, звярнуў увагу на фінансавы крызіс у Грэцыі, які моцна надакучыў гэтай краіне, выклікаў палітычны крызіс і абвяшчэнне паўторных парламенцкіх выбараў. Грэчаскі крызіс выклікаў таксама турбуленцыі на акцыянерных біржах, спрычыніўся да аслаблення вартасці нашай залатоўкі і падаражэння многіх экспартных тавараў. Епіскап Георгій атрымаў адукацыю ў Грэцыі, таму засталіся ў яго эмацыянальныя сувязі з гэтай краінай і праблемы гэтай праваслаўнай краіны яму асабліва блізкія.

Цяпер паломнікі найчасцей перамяшчаюцца на аўтамабілях і аўтобусах, таму ім дождж не такі і страшны. Калі вернікі ехалі ў Крыначку, не было воблакаў пылу на даязной неасфальтаванай дарозе, якая вядзе праз пушчу да святога месца. І гэта была станоўчая паслядоўнасць дажджлівага надвор'я. Пешаходы на дарозе, па якой перамяшчаліся машыны, забяспечыліся ад дажджу і замест пылам дыхалі свежым паветрам. Вадзіцелі заўважылі, што быў узмоцнены кавалак дарогі на лясной паляне, якая раз'езджвалася ад патоку машын. Пешаходная дарога з-пад царквы пад калодзеж праходзіць праз падмоклы і балоцісты ўчастак і раней сыпалі на яе гравій. Зараз яна мадэрнізаваная і шыкарна аднаўленая, а паабапал яе паглыбленыя равы. Па ёй паломнікі амаль цэлы час ішлі да калодзежа на месцы крыніцы і набіралі там ваду.

У мінулым галоўныя багаслужбы ў царкве ў Крыначцы адбываліся ў час святкавання ў гонар святых братоў мучанікаў Макавеяў, маці іх Саламіі і іх настаўніка Елеазара і Узвіжання Крыжа Гасподняга, паколькі ў гонар гэтых святых у 1848 годзе была ўзведзена царква на невялікай пушчанскай паляне (цяпер таксама ў Крыначцы адбываюца ўрачыстыя святкаванні ў гонар гэтых святых патронаў царквы, але з меншай колькасцю вернікаў). Мяркуецца, што толькі ў канцы XIX стагоддзя людзі пачалі збірацца на гэтым святым месцы на другі дзень Святой Тройцы, а яшчэ пазней таксама і на трэці дзень. У Крыначку людзі сталі дабірацца з усіх бакоў Белавежскай пушчы і лічыцца, што каб змясціць іх разам з фурманкамі на паляне сярод пушчы ўрачыстыя багаслужбы былі растэрмінаваны на два дні Тройцы. На другі дзень святкаванняў, у панядзелак, Крыначку наведвалі людзі з усходняга і паўночнага бакоў (зараз большасць гэтых пасяленняў знаходзіцца за мяжой, у Рэспубліцы Беларусь). Цяпер згодна з традыцыяй у троіцкі панядзелак у гэтым святым месцы моляцца перш за ўсё вернікі Дубінскага прыхода. На трэці дзень Тройцы ў Крыначку прыязджалі перш за ўсё людзі з заходняга і паўднёвага бакоў і так засталося да сёння, хаця трэці дзень стаў ужо агульнаправаслаўным святкаваннем. У гэты дзень на пушчанскай паляне можна спаткаць таксама жыхароў Нараўчанскай гміны, якія ў мінулым дабіраліся сюды ў панядзелак.

Хаця весткі аб мінулым Крыначкі і пасялення ў ёй манахаў, якія ўцякалі з Кіева ад татараў паяўляліся ўжо ў брашурах і буклетах, мясцовыя людзі ў агульным мала ведаюць пра гісторыю святога месца. Затое расказваюць пра аздараўленні ад розных хвароб дзякуючы цудадзейнай крыніцы. З адносна нядаўняга часу вядомы чалавек, які прыязджаў у Крыначку, крадком набіраў цудадзейную ваду, прамываў ёй шчаку і так вылечыў пухліну. Характэрнай з'явай для Крыначкі было выціранне ранней абмытых хворых частак цела ручнікамі ці проста чыстымі насоўкамі, якія вернікі развешвалі на галінках дрэў, а пасля на калючым дроце, што аддзяляў святое месца ад ваеннай часці. Хаця пазней сталі людзям тлумачыць, што асвячоную ваду не трэба абціраць з цела, а хустачкі гэта ў нейкай ступені забабонная прывычка, якой у іншых месцах, дзе людзі набіраюць ваду з аздараўляльных крыніц, не было, то частка людзей усё ж такі пакідала і надалей пакідае ручнічкі на калючых дратах. Адны робяць гэта дзеля традыцыі, але большасць хіба з верай, што на ручніку застанецца хвароба.

Сярод паломнікаў, якія маліліся ў Крыначцы 5 чэрвеня, былі госці з Беларусі. Прыехалі яны сюды з Дарафеем Фіёнікам, старшынёю аб'яднання „Музей малой айчыны ў Студзіводах". Іх пабыўка адбывалася зараз пасля завяршэння фестывалю „Там по маёвуй росі". Госці з Беларусі 3 і 4 чэрвеня вадзілі карагоды ў Нараўчанскай гміне, паказвалі абрад „Куста", характэрны для святкавання Святой Тройцы, і вясельны абрад у музеі „Бацькаўшчына" ў Рыбалах, звяртаючы асаблівую ўвагу на троіцкія песні. 5 чэрвеня жанчыны з Рэспублікі Беларусь маліліся ў Крыначцы, пілі ваду з цудадзейнай крыніцы і прыкладваліся да ікон у невялікай царкоўцы побач калодзежа.

У гэтым годзе святкаванні ў Крыначцы супалі са святкаваннямі ў гонар вялікай асветніцы і нябеснай заступніцы Беларускіх земляў і беларусаў святой Еўфрасінні Полацкай, якая жыла ў XII стагоддзі.

Ужо звыш дзесяці гадоў пасля святкаванняў у Крыначцы ладзіцца аднайменны беларускі фэст у Гайнаўцы. Першапачатковай ідэяй было арганізаваць фэст „Крыначка" ў паасобных жыллёвых кварталах горада, выходзячы з беларускімі песнямі да людзей. Першыя такія фэсты ў квартале „Мазуры" ладзіў Гайнаўскі аддзел БГКТ, якім кіраваў пакойны Міхал Голуб, з дапамогай Гайнаўскага дома культуры. Зараз асноўнымі арганізатарамі мерапрыемства з'яўляюцца Галоўнае праўленне БГКТ і ГДК. Пасля святкаванняў у Крыначцы гайнаўяне запрашаюць сямейнікаў да сябе на абед, а пасля ўдзельнічаюць у фэсце „Крыначка", на якім гучаць беларускія песні.

— „Прымакі" выступілі цудоўна, — заявіла адна з гайнаўянак, захапляючыся калектывам і беларускімі песнямі ў іх выкананні, якія завяршылі фэст.

Хаця фэст распачаўся ў дажджы, гайнаўяне не спалохаліся і пад парасонамі слухалі беларускіх песень у выкананні многіх вакальных калектываў, між іншым, з Гайнаўскага дома культуры.

— Колькі я пражыла, то не памятаю, каб на *Клечане* (так найчасцей называюць Тройцу старэйшыя людзі ў наваколлі Крыначкі) было так холадна, як у гэтым годзе, нягледзячы ўжо на дождж. Нават на лавачцы немагчыма было даўжэй пасядзець, — сказала амаль дзевяностагадовая жанчына з-пад Гайнаўкі. Не змагла яна ўжо сама дабрацца ў Крыначку, але дачакалася асвячонай вады з гэтага цудадзейнага месца.





Літургію ўзначаліў ардынарый Войска Польскага, епіскап сямятыцкі Георгій

Паломнікі бралі асвячоную ваду з калодзежа, збудаванага над славутай крыніцай

ISSN 0546-1960